ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXI. № 172 Нью Ёрк August — Жнівень 1971 New York Vol. XXI. № 172

# ПРАГРЭС МОЎНАЕ РУСЫФІКАЦЫІ БЕЛАРУСІ

Галоўным вогнішчам моўнае русыфікацыі Беларусі сталася школьніцтва, якое пасьля хрушчоўскае школьнае рэформы 1956 году даволі шыбка перайшло на расейскую мову, навет безь беларускай мовы як прадмету ў некаторых зь іх. Дайшло да таго, што як аўтарытэтна пацьвердзіў канадыйскі пэдагог украінскага паходжаньня Джон Коляскі, што два гады правёў у Савецкім Саюзе, у выдадзенай у 1968 г. паангельску кнізе „Адукацыя ў Савецкай Украіне", навет у сталіцы Беларусі Менску няма ніводнай сярэдняй школы зь беларускай мовай навучаньня. Як даведваемся ад шматлікіх суродзічаў на Захадзе, якім удалося апошнімі гадамі наведаць БССР, ды зь лістоў Беларусаў у БССР да сваіх суродзічаў на Захадзе, няма сяньня беларускіх школаў і ў раённых цэнтрах, мястэчках ды навет у вёсках.

У дапамогу школам у іхнай русыфікацыйнай акцыі прыходзяць і дашкольныя ўстановы — дзіцячыя сады, куды беларускія жанчыны, змушаныя цяжка працаваць нараўні з мужчынамі, пасылаюць сваіх дзяцей. А дзіцячыя сады ў гарадох і мястэчках, як правіла, а на вёсках пераважна вядуцца таксама ў расейскай мове.

Апошнім часам значна ўзмоцнілася ў БССР выцісканьне беларускае мовы з культурнага жыцьця краю, дзе яна, дзякуючы нашай патрыятычнай інтэлігенцыі, была часткава яшчэ захаваўшыся. Нагул усюды йдзе сяньня прагрэсыўны працэс моўнае русыфікацыі Беларусі, ня кажучы ўжо пра русыфікацыю культурную й псыхалягічную.

Нядаўны сакратар ЦК КПБ **Станіслаў Пілатовіч** у сваім інтэрвю ў маскоўскім расейскім часапісе **„Наш современник"** за сьнежань мінулага году з вышыні свайго партыйнага становішча быў асьветчыўшы: **„Народ беларускі любіць расейскую мову, уважае яе сваёй другой роднай мовай. І мы ня без пачуцьця задавальненьня адзначаем, што на Беларусі з кажным годам павялічваецца колькасьць людзей, што, побач зь беларускай, дасканала ведаюць расейскую мову і зь вялікай ахвотай карыстаюцца ёй у сваім жыцьці"**. ЗьвінавацІўшы далей беларускіх нацыяналістых за тое, што яны **„прывязанасьць беларускага народу да вялікага расейскага народу намагаюцца папаклёпніцку выясьніць, як адрыў ад нацыянальнай культуры, нацыянальнай мовы"**, Пілатовіч заявіў, што **„тое, што памагае посьпеху савецкіх людзей на іхным шляху да камунізму, ворагі расцэньваюць, як зло для нашых народаў"**. Адсюль лягічны высnаў, што адным з фактараў на шляху беларускага народу да камунізму — ягоны пераход на расейскую мову.

Падобны пагляд ці рэдка выказваўся ўжо ў савецкім друку, але зусім прыватнымі людзьмі, як іхнае асабістае перакананьне. Затое пачуць штосьці падобнае з вуснаў афіцыйнага прадстаўніка Камуністычнае партыі Беларусі — сакратара ейнага ЦК, на колькі памятаецца, даводзіцца ўпяршыню. Пілатовічава заява афіцыйна пацьвярджае й адобрывае фактычны стан і тэндэнцыю сяньняшняе моўнае палітыкі й практыкі на Беларусі, галоўнай мэтай якіх — **русыфікацыя.** Хоць Пілатовіч цьвердзіў пра штораз большае паслугоўваньне працоўнымі Беларусі расейскай мовай як сваёй роднай, побач зь беларускай мовай, у практыцы гэтае „побач" абазначае тут „заміж", „замест" і вядзе да штораз шырэйшае замены беларускай мовы расейскай, не як другой, а першай з выразнай тэндэнцыяй стацца й адзінай роднай мовай беларускага народу.

Шыбкі прагрэс замены беларускай мовы расейскай зырка зазначыўся апошнім часам у культурным жыцьці Беларусі. Гэтак яшчэ да 2-га зьезду кінаматаграфістых Беларусі, што адбыўся ў лютым 1967 году, фільмы студыі „Беларусьфільм", абаснаваныя на беларускай тэматыцы, гучэлі, хоць і папсаванай, але беларускай мовай. Сябра сцэнарна-рэдакцыйнае калегіі студыі паэта **Максім Лужанін,** дакараючы на гэным зьезьдзе беларускія фільмы за адрыў ад нацыянальнай асновы, казаў: **„Дзіўна, сапраўды, бачыць на экране Беларуса, які размаўляе з волжскім акцэнтам"**. Ілюструючы гэтую зьяву канкрэтным прыкладам, Максім Лужанін казаў далей: **„Альпійская баляда", напрыклад, магла-б стацца значным творам нацыянальнай кінаматаграфіі, калі-б на ролю Івана Цярэшкі быў падабраны актор Беларус".** Значыцца, хоць і з гэным „волжскім акцэнтам", Беларусы ў фільмах студыі „Беларусьфільм" гаварылі ўсё-ж пабеларуску.

Затое, як можна меркаваць із справаздачнага дакладу праўленьня Саюзу кінаматаграфістых Беларусі на 3-ім зьезьдзе беларускіх кінаматаграфістых, што адбыўся ў сакавіку сёлета, у беларускіх фільмах няма ўжо й гэтага. Кінарэжысэр **І. Дабралюбаў** у згаданым справаздачным дакладзе казаў: **„Нельга зводзіць нацыянальную форму толькі да чыста вонкавых атрыбутаў: касьцюмаў, розных этнаграфічных дэталяў або ўвядзеньня ў вабраз песьні на беларускай мове"**, а не самой ужо мовы.

Працэс выцісканьня беларускай мовы й замены яе мовай расейскай асабліва зырка відаць у выдавецкай дзейнасьці Беларусі. З выдаванага штогоду ў Маскве Ўсесаюзнай Кніжнай Палатай статыстычнага даведніка **„Печать СССР"** добра відаць, што паводля колькасьці кніжных выданьняў на роднай мове Беларусь стаіць сярод саюзных рэспублікаў на перадапошнім месцы перад Туркменскай ССР, што налічвае, паводля перапісу 1970 году мала больш за два мілёны жыхарства, а ў працэнтных паказьніках — на самым апошнім месцы і далёка ззаду навет за Туркменскай ССР.

У леташнім перапісе жыхарства СССР было пытаньне: якой другой мовай народаў СССР свабодна ўладаюць перапісваныя, апрача сваёй роднай мовы? Вось-жа 49% Беларусаў падало, што яны, апрача беларускай мовы, свабодна ўладаюць мовай расейскай. А ў кніжнай прадукцыі БССР ад даўгіх ужо год, паводля згаданага даведніка „Печать СССР", толькі 20% кніжак друкуецца на беларускай мове, а 80% — на мове расейскай. Значыцца, для 51% беларускага народу, што не ўладае свабодна расейскай мовай, гэныя 80% выдаваных на Беларусі й для Беларусі кніжак практычна не даступныя. Зьява бяспрэцэдэнтная і ў найвышэйшай ступені кур'ёзная!

А вось, здавалася-б, дробны, але вельмі вымоўны прыклад шыбкага прагрэсу моўнай русыфікацыі. У 1962 годзе выйшла калектыўная праца Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі навукаў БССР пра гісторыю беларускае кінаматаграфіі даваеннага часу. Кніга была выдадзеная ў беларускай мове. Затое другі том гэтае працы, што выйшаў летась і абыймае гісторыю беларускай кінаматаграфіі паваеннага пэрыяду, выдадзены ўжо на расейскай мове.

Калі тыражы беларускіх літаратурных часапісаў за мінулы і ў пачатку сёлетняга году павялічыліся зусім нязначна, дык тыраж расейскамоўнага часапісу **„Неман"**, выдаванага ў Менску, павялічыўся чуць не ўдвая. Гэтак першы нумар **„Полымя"** леташняга году меў тыраж — 9.855 экзэмпляраў, а нумар 12 леташняга году — 10.113 экзэмпляраў і бадайшто гэткі-ж тыраж быў і нумару першага сёлетняга году — 10.433 экзэмпляры. Нумары першы й апошні леташняга году часапісу **„Маладосьць"** мелі адпаведна 13,321 і 13.712, а нумар першы сёлетняга году—15.530 экзэмпляраў. Тыраж часапісу **„Беларусь"** першага й апошняга нумару летась выносіў 18.110 і 20.718, а нумар першы сёлета нат трохі менш — 20.669 экзэмпляраў. Затое тыраж расейскамоўнага часапісу „Неман" з 28.358 напачатку й 32.000 на канцы леташняга году раптам падскочыў да 50.000 экзэмпляраў для першага нумару сёлетняга году.

У дачыненьні да пісьменьнікаў Беларусі яшчэ колькі год таму тарнаваўся афіцыйна прынцып нацыянальны. Затое ад нядаўнага часу прынцып гэты ўжо не актуальны: незалежна ад таго, на якой мове пішуць гэтыя пісьменьнікі й хто яны паводля сваёй нацыянальнасьці, мясцовага беларускага паходжаньня ці прыбылыя з Расеі й аселыя на Беларусі, усе яны сяньня афіцыйна ўважаюцца за беларускіх пісьменьнікаў. Калі крытык **Сэрафім Андраюк** у сваім дакладзе на паседжаньні Сэкцыі прозы й крытыкі Саюзу пісьменьнікаў Беларусі 26 красавіка сёлета стан беларускай мастацкай прозы ілюстраваў прыкладамі з твораў беларускіх пісьменьнікаў, дык расейскі пісьменьнік **М. Кругавых** зрабіў гэткі дакор: **„Мы абмяркоўваем прозу леташняга юбілейнага году. На жаль, у дакладзе я не пачуў ні слова пра часапіс „Неман", які надрукаваў летась нямала празаічных твораў".** Калі ў беларускім альманаху **„Дзень паэзіі"** 1965 году спасярод усіх 77 паэтаў фігуравала й 11 паэтаў зь вершамі на расейскай мове, дык былі яны выдзеленыя ў васобны разьдзел, загалоўлены „Рускія паэты". Затое ў „Дні паэзіі" 1966 й наступных гадоў у васобны разьдзел яны ўжо ня былі выдзеленыя, а іхныя вершы былі рассыпаныя па ўсёй кнізе ўперамешку зь беларускімі вершамі бязь ніякага абазначаньня, што гэта „рускія паэты".

Калі ў першым даведніку **„Пісьменьнікі Савецкай Беларусі"** 1959 году выданьня пасьлядоўна тарнаваўся прынцып нацыянальны і аўтары, што пісалі парасейску, абазначаліся як „рускі паэт", „рускі пісьменьнік", дык у другім даведніку 1970 году выданьня гэткага абазначаньня ўжо нямашака. У ім адно зазначана, што дадзены паэта ці пісьменьнік „піша на рускай мове". Усё гэта — вынік гэтак званае ленінскае нацыянальнае палітыкі партыі самых апошніх гадоў, палітыкі, што намагаецца ня ўвыпукляць, а як мага нівэляваць нацыянальнасьць культурных дзеячоў Беларусі, уважаючы ўсіх іх дзеячамі беларускае культуры, незалежна ад мовы, якой яны карыстаюцца ў сваёй культурнай дзейнасьці.

Само жыцьцё, аднак, паказала, што прагрэс моўнае русыфікацыі ня йдзе ў пары з прагрэсам самое культуры, а спрычыняецца да ейнага рэгрэсу. Можна прывесьці процьму прыкладаў, дарэчы агульна ведамых і так, што ўзапраўды высокія дасягненьні й належнае ўзьдзейваньне на масы мелі й маюць творы культуры й мастацтва ў роднай мове іхных творцаў і іхных кансумэнтаў, тых, каму яны прызначаныя.

Гэткім парадкам Масква ў дачыненьні да Беларусі ды пры дапамозе беларускіх янчараў-выратдкаў робіць падвойнае злачынства: усякімі спосабамі праводзіць моўную, культурную й псыхалягічную русыфікацыю беларускага народу й тым самым тарнуе палітыку нацыянальнага гэнасыду або народазабойства, а разам з гэтым адрывае беларускі народ ад нармальнага культурнага прагрэсу, інакш кажучы, вяртае яго да стану цемры й бязкультур'я. Вяртае да стану, які прымусова сгварала на Беларусі Расея царская.

Беларускі народ, у высокай ступені жыцьцяздольны, творчы й моцны духова, ператрываў царскую няволю, ператрывае ён і няволю чырвонае бальшавіцкае Расеі з усімі ейнымі народазабойчымі жахамі.

**Дзівасіл**

## УЗНАГАРОДА ПРЫЯЦЕЛЯ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ



**Зьлева направа: супрацоўнік нашае газэты Часлаў Найдзюк, ягоная старэйшая дачка Ядзя й радыёвы камэнтатар у Лёс Анджэлесе Джордж Патнам на фоне беларускага нацыянальнага сьцягу**

12 ліпеня сёлета ў тэлевізійнай студыі КТТВ, канал 11, у Лёс Анджэлесе адбылося ўручэньне Джорджу Патману, ведамаму тэлевізійнаму камэнтатару мэдалю Прэзыдэнта Айзэнгаўэра Паняволеных Народаў. Уручыў мэдаль старшыня арганізацыі Амэрыканцы за свабоду паняволеных народаў Д-р Альгерд Клейнот, назваўшы Джорджа Патнама чэмпіёнам свабоды для Паняволеных Народаў.

Урачыстасьць адбылася на фоне нацыянальных дэлегацыяў у народных касьцюмах і з нацыянальнымі сьцягамі. Пры беларускім сьцягу былі Ядзя й Часлаў Найдзюкі. Кажная дэлегацыя называла імя нацыі, якую прадстаўляла, у мікрафон Джорджа Патнама, які на пачатку сказаў у мікрафон уступную прамову пра палажэньне Паняволеных Народаў. Уся ўрачыстасьць была паказаная ў тэлевізіі ў пачатку наступнага тыдня, калі адзначаўся ў Каліфорніі Тыдзень Паняволеных Народаў.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

17 ліпеня сёлета ў Акруговым Цэнтры Лёс Анджэлесу пад адкрытым небам у прыгожым акружэньні мадэрных будынкаў у суседзтве зь ведамым музычным цэнтрам адбылася ўрачыстая праграма 12-ых угодкаў праклямацыі Прэзыдэнта Айзэнгаўэра, якой абвяшчаўся Тыдзень 22-ух Паняволеных Народаў.

Сьвяткаваньне ладзілася ад імя акруговай адміністрацыі 3-га дыстрыкту (акругі) гораду й ягонага кіраўніка Эрнэста Э. Дэбса з удзелам арганізацыі Амерыканцы за Свабоду Поняволеных Народаў і ейнага старшыні сьвяткаваньняў Тыдня Паняволеных Народаў Міколы Мэдвіда. Праграму вёў ведамы з тэлевізійных камэнтароў 5-га каналу Робэрт К. Дорнан. Былі прачытаныя праклямацыі пра абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў Прэзыдэнта Ніксана, мэра гораду й інш. Сярод многіх прамоўцаў быў і прэзыдэнт Лёсанджэлескага Гарадзкога Каледжу Д-р Люіс Каўфман. Ён падчыркнуў, што „без паінфармаванага грамадзтва ўсе арміі сьвету маюць малую вартасьць у захаваньні свабоды". Праграма выконвалася на фоне розпанацыянальных сьцягоў, у асысьце якіх былі прадстаўнікі моладзі ў нацыянальных вопратках.

Каля беларускага нацыянальнага сьцягу былі ў народных касьцюмах Ядзя й Карнэля Найдзюкі, а сярод ганаровых прадстаўнікоў паняволеных народаў знаходзіўся сп. Часлаў Найдзюк. Грала паліцыйная аркестра. На заканчэньне праграмы была прынятая рэзалюцыя з просьбай да Прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў, каб пытаньне вызваленьня Паняволеных Народаў было пастаўленае перад Арганізацыяй Задзіночаных Нацыяў.

**Н.**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ ЁРКУ

Сёлетні Тыдзень Паняволеных Народаў у Нью Ёрку быў адчынены дэманстрацыяй каля Статуі Свабоды, што адбылася ў нядзелю 18 ліпеня. У дэманстрацыі, зладжанай арганізацыяй Амэрыканцы за вызваленьне паняволеных народаў, узялі ўдзел групы паняволеных народаў, сярод іх і беларуская група, прадстаўнікі амэрыканскіх уладаў, дэлегацыя з Канады ды ведамыя антыкамуністычныя дзеячы Амэрыкі.

Сярод паняволеных народаў найлепш задэманстравалі свае імкненьні Крымскія Татары, якія шматлікімі плякатамі пратэставалі супраць прымусовага вывазу із свае бацькаўшчыны ўсяго Крымска-татарскага народу пасьля апошняе вайны й далейшай забароны варочацца назад на Крым, хоць савецкі ўрад афіцыйна выдаў гэткі дазвол у 1967 годзе.

Пасьля прачытаньня праклямацыі Прэзыдэнта Ніксана пра абвешчаньне сёлетняга Тыдня Паняволеных Народаў у ЗША і праклямацыі губэрнатара Рокфэлера пра абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў у штаце Нью Ёрк ды многіх прывітаньняў ад сэнатараў і кангрэсмэнаў ЗША, галоўную прамову мела сп-ня Валентына Калынік, старшыня арганізацыі Амэрыканцы за вызваленьне паняволеных народаў. Яна ўспомніла ўсе паняволеныя народы, іхную долю цяпер і іхныя змаганьні за вызваленьне ад маскоўскага й пэкінскага камунізму.

Зь іншых цікавейшых выступленьняў трэба адзначыць прамову Д-ра Апэрбуры, амэрыканскай місіянэркі, што правяла амаль цэлае сваё жыцьцё ў Кітаі. Яна прамаўляла супраць якой-небудзь сувязі з чырвоным Кітаем, зазначаючы, што гандлёвыя дачыненьні зь ім будуць пакрывацца амэрыканскімі грашыма, якія Кітай здабывае нелегальным гандлем і тручэньнем амэрыканскае моладзі наркотыкамі. На падобную тэму гаварыў і пастар Карл Мэк Інтайр, зацяты антыкамуністы, арганізатар паходаў за перамогу ў Ветнаме. Ён заклікаў да масавага ўсеамэрыканскага супраціву пляну адведаньня Кітаю Прэзыдэнтам Ніксанам.

Дэманстрацыя закончылася зложэньнем вянкоў на прыступках Статуі Свабоды, пасьля кароткай мастацкай часткі, у якой выступалі групы Чаркесаў і Татараў зь іхнымі народнымі танцамі.

У гэным самым часе, у Цэнтральным Парку ў Нью Ёрку, адбылася другая дэманстрацыя, зладжаная групамі паняволенх народаў, згуртаваных пры арганізацыі Амэрыканскія Прыяцелі Антыбальшавіцкага Блёку Народаў. Летась усе дэманстрацыі былі скаардынаванымі living розньмі арганізацыямі, і адбываліся кажная ў іншым часе, чаго, нажаль, не ўдалося дасягнуць сёлета.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
Subscription $ 6.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
**Выходзіць** месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# СУСТРЭЧА З ЖАНЧЫНАМІ КЛІЎЛЕНДУ

Давялося мне ў пачатку ліпеня сёлета наведаць Кліўленд, быць у Полацку — Беларускім Грамадзкім Цэнтры, запраўдным жывым цэнтрам усяго беларускага таварыскага, грамадзкага, спартовага й маладзёжнага жыцьця трох пакаленьняў Беларусаў вялікага Кліўленду й аколіцаў. Аб самым Полацку можна напісаць цэлую аповесьць ці навет і паэму, але гэта не мая спэцыяльнасьць.

Супольны высілак купіць і разбудоўваць гэткі вялікі грамадзкі асяродак зблізіў людзей, сцэмэнтаваў беларускае грамадзтва Кліўленду, а Полацак расьце й прыцягвае да сябе наведвальнікаў навет з далёкіх беларускіх сяродкаў.

Да росту Беларускага Грамадзкага Цэнтру прыклалі сваю працу й беларускія жанчыны, а перш-наперш тыя, што ўжо гадамі інтэнсыўна працуюць у сваёй жаноцкай арганізацыі — Беларускім Жаноцкім Згуртаваньні. Шмат гадоў кіруе гэтым Згуртаваньнем сп-ня Клава Каляда, зразумела, пры дапамозе іншых жанчынаў. І няма там ні сварак ні непаладкаў, працуюць усе, бяручы прыклад з кіраўніцтва.

Вось дзеля прыкладу жанчыны ўстанавілі дзяжуры ў Полацку падчас розных імпрэзаў, прадаюць у кіёску, мала таго, што прадаюць, а й рыхтуюць усякую ежу, пякуць, вараць, смажаць... Гэтак яны дзяжурылі ўсе тры дні ў часе Зьезду Беларускай Моладзі. Быў і вялікі даход зь кіёску. „— Зразумела увесь даход, як і заўсёды, ідзе на наш Полацак, бо-ж расходы яго ўтрымаць, выплачваць і разбудоўваць вельмі вялікія" — інфармуе дзяжурная Эва Дунец і цешыцца зь вялікага даходу, цешыцца із сваёго Полацку за сябе й сваіх дзяцей.

З жанчынамі — сяброўкамі Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня сутрэлася я 6 ліпеня. Чаму я шукала гэтага спатканьня?

Яшчэ на 13 Кангрэсе БАЗА сп-ні Кляўдзі і мне, як дзьвюм жанчынам, што ўвайшлі былі ў Галоўную Управу БАЗА, было даручана заняцца жаноцкімі арганізацыямі, афіліяванымі пры БАЗА, каб навязаць між імі лучнасьць, каардынаваць дзейнасьць і старацца арганізацыйна аформіць — выбраць Галоўнае Кіраўніцтва пасьля адмовы ад старшынства сп-ні В. Бартуль. Справа гэтая ня была лёгкая. Лістоўную сувязь я старалася ўтрымоўваць, але вынікі былі малыя, не ўдалося нічога прадуктыўнага зрабіць. Існавала патрэба асабістае сустрэчы з жанчынамі. Дык вось да гэткай сустрэчы й дайшло.

На паседжаньні, а фактычна на Агульным Сходзе, бо былі запрошаныя ўсе жанчыны Кліўленду, а з чужых, апрача мяне, Вера Рамук, якая гасьціла якраз у гэтым часе ў Полацку.

Сход адчыніла сп-ня Каляда і папрасіла сп-ню Данку Кананчук быць сакратаром Сходу. Сп-ня Каляда расказала як працуе жаноцкая арганізацыя, як „зарабляе грошы" на розных магчымых базарах і шматлікіх выстаўках, на якіх, апрача экспанатаў народнага мастацтва, арганізуюцца кіёскі з нацыянальнай ежай і якую ўміг раскупліваюць.

Аб адным з апошніх гэткіх удалых удзелах у такой імпрэзе прачытайце, калі ласка, у гэтым-жа нумары „Беларуса" ў хроніцы з Кліўленду, каб ацаніць, якую карысную справу навонкі дзеля інфармацыі пра Беларусь, а пры гэтым і карысную для касы арганізацыі праводзіць Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўлендзе. Прыдбаныя гэткім парадкам грошы Згуртаваньне ўжывае на розныя карысныя й конча патрэбныя справы. Прыкладам, штогоду Згуртаваньне дае на Выдавецкі Фонд „Беларуса" па 100 даляраў, а колькі-ж добрых справаў робіць яно для сваё царквы, для ўсяе беларускае калёні!

У сваёй справаздачы сп-ня Каляда гаварыла й пра цяжкасьці ў працы, пра недахоп часу, часамі недахоп і працоўных рук дзеля майстраваньня й пячэньня тысячаў усякіх беларускіх кулінарных прысмакаў. І трэба дзівіцца зь вялікай адданасьці прынятаму на сябе добраахвотна абавязку, калі ўся сям'я прымае ўдзел у ягоным выконваньні: бабка круціць калдуны й піражкі, Іра Каляда-Сьмірнова давозіць іх машынай на выстаўку, а ў кіёску сп-ня Клава Каляда дый іншыя жанчыны прадаюць іх.

Гаварыць на сходзе пасьля сп-ні Каляды мне было цяжка, бо ня было чым пахваліцца ў Нью Ёрку. Я старалася вытлумачыць, што ў Нью Ёрку няспрыяльныя абставіны для жыцьця й асабліва дзейнасьці, што людзі далёка расьсееныя адзін ад другога, што былі й іншыя незалежныя ад нас прычыны, якія тармазілі працу, што на сяньняшні дзень ня маем гэткай вялікай групы згуртаваных жанчынаў і г. д. Але ці паверылі мне? — ня ведаю. Я сказала, што мы ў Нью Ёрку прабуем падняць жаноцкую арганізацыю, што на маё пытаньне большыня беларускіх жанчынаў прызнала патрэбу існаваньня сваёй жаноцкай арганізацыі, і то дзейнай, што мы маем надзею на палепшаньне гэтае справы ў Нью Ёрку. Я агульна паінфармавала, што ў Нью Брансьвіку справа стаіць добра і жаноцкая арганізацыя там дзейная. Наапошку я сьцьвердзіла, што нам жанчынам трэба сустракацца, плянаваць, каардынаваць сваю дзейнасьць, дзяліцца дазнаньнямі. Я падала праект, каб склікаць адмысловы зьезд — Жаноцкі Кангрэс з мэтаю абмяркаваць усе нашыя жаноцкія праблемы, склікаць яго ў Кліўлендзе ў 1972 годзе. На гэтым Кангрэсе мы маглі-б выбраць і сваё галоўнае кіраўніцтва.

Выказваліся жанчыны з Кліўленду, і ўсе яны ўважалі маю прапанову правільнай і карыснай. Яны выказалі ахвоту гасьціць у сябе жанчын зь іншых беларускіх асяродкаў. „— Трэба будзе шмат папрацаваць", — правільна заўважыла сп-ня Данка Кананчук, віцэ-старшыня Згуртаваньня. Так, трэба будзе шмат папрацаваць, але-ж Беларусам Кліўленду ня прывыкаць да гэтага. „— Бязумоўна, Кангрэс трэба склікаць, ужо даўно пара", — энтузіястычна падала свой голас Эва Дунец. Як прыемна, што з малое Эвы, былой маёй вучаніцы ў лягеры Остэргофэн у Нямеччыне, вырасла дзейная Беларуска.

А можа хто прыедзе і з гэтых знаёмых з Остэргофэну... „Па лыжачцы масла зьбіралі па хатах, пасылалі пачкі ў лягеры ваеннапалонным, у шпіталі, ладзілі прыняцьці для Прэзыдэнта Рады БНР, колькі гэта год таму? — 25", — успамінае сп-ня Лукашэвіч, а іншыя ўжо падаюць праекты ,як наладзіць гэткі зьезд, якую выпрацаваць праграму. „— Жаноцкі Ансамбль можа засьпяваць" — ціха заўважае сп-ня Ягаўдзік, а вочы ейныя сьвецяцца радасьцяй.

На заканчэньне нашага Сходу маладыя гаспадынькі частавалі нас пячэньнем і адмысловым пончам.

Сустрэча з жанчынамі Кліўленду была карысная. Думка мая пра скліканьне Жаноцкага Кангрэсу была прынятая, падтрыманая самай моцнай і дзейнай нашай жаноцкай арганізацыяй у Кліўлендзе. Трэба яе распрацоўваць, абмяркоўваць і наагул папрацаваць, каб мець нагоду ўзноў сустрэцца з жанчынамі Кліўленду ў Полацку. Але гэным разам у вялікай грамадзе.

**З. Станкевіч**

### У ГОНАР ШЭФА ПАЛІЦЫІ ЛЁС АНДЖЭЛЕСУ

8 чырвеня сёлета ў Гілтон Гатэлі адбыўся вечар ушанаваньня шэфа паліцыі Лёс Анджэлесу Эдварда М. Дэвіса, наладжаны акруговым кіраўніцтвам Рэспубліканскай Партыі. Вечар быў зьвязаны з тыднем, прысьвечаным паліцыі. Шэф паліцыі атрымаў адмысловую ўзнагароду прызнаньня ягонай дзейнасьці. Ён-жа зрабіў даклад аб сваёй паліцыйнай працы. Сярод прысутных на вечары быў і беларускі прадстаўнік.

# МАЁЎКА БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ



**„БАЦЬКА ГОДУ" 1971 Філярэт Родзька сярод удзельнікаў маёўкі**

У нядзелю 20 чырвеня на царкоўным агародзе ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, Управай мясцовага Аддзелу БАЗА была зладжаная першая ў сёлетнім сэзоне маёўка. Маёўка гэтая, з нагоды „Дня Бацькі", была спалучаная з адпаведным адзначаньнем гэтага дня.

У часе Божае Службы а. Васіль Кендыш сказаў кароткую малітву за ўсіх бацькоў, якім было тут-жа прапяянае „Шмат год!"

Пасьля Божае Службы прысутныя перайшлі ў цень дрэваў за царквой і пачалі абед-бяседу, падрыхтаваную сябрамі Управы й жанчынамі. Напіткі й закускі йшлі „на расхват", бо апошнія былі смачна падрыхтаваныя, а цэны ня высокія. У традыцыйную лятарэю была ўведзеная зьмена: замест многіх і часта бязвартасных фантаў, былі разыграныя толькі адзін — транзыстарнае падарожнае радыё з гадзіньнікам-будзільнікам, якое выйграў сп. В. Дубяга.

Перад выбарамі „Бацькі Году" да ўсіх бацькоў з жартоўнай гутаркай зьвярнуўся Культурна-Асьветны Рэфэрэнт Аддзелу БАЗА В. Стома. Тымчасам „Выбарная Камісія" (журы) ў складзе сп. і сп-няў В. Кабушка, Л. Гутырчык і М. Азарка пачала абмяркоўваньне кандыдатаў і ў хуткім часе абвесьціла вынік выбараў. На „Бацьку Году" нашага асяродзьдзя быў выбраны адзін з найстарэйшых бацькоў заслужаны ў нашай грамадзе сп. Філярэт Родзька. Пасьля абвешчаньня выніку выбараў, журы ўдэкаравала яго бел-чырвона-белай істужкай з напісам „Бацька Году 1971", сашпіленай у какарду значком БАЗА. Дадаткова Старшыня Аддзелу БАЗА Т. Супрун паднёс яму ў падарунку пляшку шампанскага.

Яшчэ даўжэйшы час прысутныя бяседавалі пад гукі беларускай музыкі й песьняў з магнітафону. Пасьля падліку аказалася, што ў касу Аддзелу БАЗА ўплыло ад гэтай імпрэзы 176.46 дал. чыстага прыбытку.

Управа Аддзелу складае шчырую падзяку Сп-ням А. Войтэнка, А. Супрун і Н. Стома за працу ў кухні, Сп-ням С. Швэд і Ф. Івановіч — за прадажу лятарыйных білетаў, а таксама пералічаным вышэй „Выбарнай Камісіі" і дадаткова Сп. П. Швэду, які, хоць і не зьяўляецца сябрам Управы, але ахвотна працаваў пры абслугоўваньні найбольш вымагальных гасьцей — нашых наймалодшых, частуючы іх „гарачымі сабачкамі".

**Упрва Аддзелу**

# БЕЛАРУСКАЕ КУПАЛЬЛЕ Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

У канцатыдні 9 і 10 чырвеня Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі ладзіла традыцыйнае беларускае народнае сьвята Купальле на селішчы „Мір".

Ужо ў сыботу папаўдні пачалі зьяжджацца ўдзельнікі сьвята і, ня трацячы часу, адразу-ж пачалі купацца ў вадноўленым і паглыбленым азярку, іншыя адпачывалі ў цені дрэваў, удыхаючы чыстае падгорскае паветра. Перад заходам сонца ўсе пачалі зьбірацца на прыгожую, акружаную гэтак любымі беларускаму сэрцу бярозкамі, палянку, скуль даўно ўжо даносіліся гукі беларускіх мэлёдыяў з магнітафоннае стужкі. А тут і вячэра, якую гэтым разам падрыхтавалі мужчыны, так што жанчыны былі „гасьцьмі".

У міжчасе пацямнела і ўдзельнікі перайшлі на бераг азярка, дзе ўжо пылала купальская вігнішча, гэтак, як калісьці на далёкай бацькаўшчыне. Прывабліваісьці дадавала невялікая палетка жыта, засеянага гаспадаром селішча а. Віктарам над самым берагам азярка. Паплылі купальскія песьні. Шмат хто быў расчулены амаль да сьлёз, бо ўсё гэта настройвала да ўспамінаў зь мінулага.

Неўзабаве на вадзе паказаліся колькі дзесяткоў агеньчыкаў. Што гэта? А гэта-ж нашыя наймалодшыя, што чулі пра купальскія звычаі толькі ад сваіх бацькоў, надумаліся пацешыць іх пушчаньнем вянкоў з прымацаванымі да іх запаленымі сьвечкамі. І далей паплылі песьні й успаміны, аж пакуль неба не пачало чырванець на ўсходзе.

У нядзелю не давялося доўга адпачываць, бо ўсе, улучна з найбольш лянівымі, сабраліся ў залю, часова прыстасаваную пад царкву і ўпрыгожаную палявымі кветкамі, дзе а. Віктар адслужыў сьв. Літургію. Няўтомны й заўсёды душою малады сп. Ф. Родзька кіраваў энэргічна хоць і здэкампляктаваным, але дружным хорам.

Пасьля Багаслужбы адбыўся супольны абед-маёўка. Здаровае паветра добра дзейнічала на апэтыты, так што нікога ня трэба было запрашаць да яды.

Але ўсяму прыходзіць канец. Падвечар пачалі рыхтавацца да ад'езду, бо назаўтрае трэба шмат каму станавіцца да працы. Разьяжджаліся з жалем, што гэтак хутка ўсё скончылася. Ды гэта й нармальна ў чалавечым жыцьці: усё, што добрае, хутка канчаецца, але ўспаміны аб ім застаюцца. Думаю, што ўспаміны пра гэтае сьвята застануцца надоўга ў памяці. Застаецца адно пажадаць, каб Управа Аддзелу БАЗА часьцей ладзіла падобныя імпрэзы, а грамадзтва іх падтрымоўвала, бо ў купальскім сьвяце ўдзельнікаў магло-б быць больш.

**Адна з прыстуных**

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА У АДЭЛЯЙДЗЕ

18 ліпеня сёлета Парахвія БАПЦ у Адэляйдзе (Аўстралія) ўрачыста сьвяткавала сваё парахвіяльнае сьвята ў дзень Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўлы, які быў перанесены з панядзелку 12 ліпеня.

Ужо з самай раніцы парахвіяне й госьці пачалі зьбірацца ў царкву. Прысутнічала каля сотні асобаў, што на нашую сьціплую беларускую грамаду ў Адэляйдзе — вялікая колькасьць. Урачыстую Службу Божую адправіў старэйшы із сьвятароў протапрасьвітэр Пятро Грушэцкі, з У.А.П.Ц., у суслужэньні а. Васіля Чэчэліса, настаяцеля нашай парахвіі, і сьвятароў а. А. Моца, а. І. Нікалаенкі, а. Дыякана з У.А.-П.Ц. і архімандрыта Данілы з грэцкай царквы.

Вельмі ўрачыста й мілагучна сьпяваў хор нашае царквы пад кіраўніцтвам сп. Бурноса. Пасьля Багаслужбы й Малебену з крыжовым ходам, усе былі запрошаныя на ўрачыстую бяседу-абед у залі англіканскай царквы, што побач з нашай царквой. У кароткім уступным слове сп. П. Трысмакоў, староста нашай царквы, падзякаваў усім, што прыбылі ўшанаваць нашае сьвята і спрычыніліся, каб належна зарганізаваць сьвяткаваньне. Выказаў жаль, што ня мог прысутнічаць першы арганізатар рэлігійнага жыцьця Беларусаў у Адэляйдзе й ініцыятар пабудовы нашай царквы мітрафорны пратаерэй а. Міхаіл Шчурко, які цяпер цяжка хворы.

Пасьля пабагаслаўленьня стала а. Пятром Грушэцкім, пачалася застольная гутарка пра сучаснае і ўспаміны пра мінулае. А сталы былі багатыя. Нашыя парахвіянкі пастараліся паказаць сваё майстроўства, а іх, што падрыхтоўвалі ежу, было цімала: сп-ні Бурнос, Акавітая, Станкевічыха, Трысмачыха, Халеўская, Сухаверх, Райцэвічыха, Харменка, Чэчэліс, Шыркевічыха, Кушнер, Сьцербіна. Вялікае ім беларускае дзякуй!

У часе бяседы а. Пятро Грушэцкі падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі пра супрацоўніцтва з арганізатарам рэлігійнага беларускага жыцьця ў Адэляйдзе ў першыя гады на эміграцыі а. М. Шчурком, былым настаяцелем нашае парахвіі. Усе прысутныя прапяялі малітву за хуткае выздараўленьне а. Міхаіла Шчурко.

Прыемна адзначыць, што Парахвіяльная Рада ўлажыла шмат працы пры арганізацыі сьвяткаваньня, а затым і вынікі былі добрыя.

**Парахвіянін**

### МАЛІТВА ЗА ПАНЯВОЛЕНЫЯ НАРОДЫ

2 ліпеня сёлета ў месьце Эль Торо ў Каліфорніі адбылася вялікая сьвяткавальная праграма пад адкрытым небам, ладжаная банкаўскай арганізацыяй (Роял Сэвінгс) і была прысьвечаная 195-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. Асобным пунктам праграмы былі выступленьні прадстаўнікоў нацыянальных групаў, што рыхтаваліся да сьвяткаваньня Тыдня Паняволеных Народаў. Дэлегаткі ад паасобных народаў былі ў нацыянальных касьцюмах пры сваіх нацыянальных сьцягох у асысьце скаўтаў.

Старшыня Управы дырэктароў банку Чэстар Б. Андэрсан прадставіў удзел у сьвяце сябра Камітэту Тыдня Паняволеных Народаў. Ён-жа пры ўставаньні колькіх тысячаў прысутных прачытаў адмысловую малітву, прысьвечаную Паняволеным Народам наступнага зьместу: „Няхай Бажыя багаславенствы пакрыюць гэтыя народы й іхных паасобных людзей. Няхай вароты дабрабыту, гонару й шчасьця адчыняцца ўзноў для іх у найбліжэйшай будучыні". У асысьце беларускага сьцягу была Ядзя Найдзюк.

# АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАЕ ПАЭЗІІ ПААНГЕЛЬСКУ

**У беларускай праграме радыя Ватыкану 16 ліпеня сёлета была перададзеная наступная вестка:**

„Колькі дзён таму зьявілася ў кнігарнях Лёндану „Анталёгія Беларускае Паэзіі" ў вапрацаваньні ангельскае паэткі Веры Рыч. Кніга мае агульны назоў „Як вада, як агонь". Выдала яе міжнародная арганізацыя ЮНЭСКО праз ангельскае выдавецтва Джордж Ален энд Ануін. Сваім тлумачэньнем паэтка Вера Рыч зрабіла вялікую прыслугу беларускаму народу, бо яна адчыніла моўныя дзьверы беларускае літаратуры для ўсіх англамоўных народаў і паказала ім частку скарбаў беларускае паэтычнае творчасьці.

Нажаль, савецкая беларуская дэлегацыя пры ЮНЭСКО, якая накінула творы для тлумачэньня, налажыла сваё гнюснае таўро на гэтую карысную працу. У ёй зусім ня ўспомнена шмат якіх агульна прызнаных беларускіх паэтаў, такіх як: Дунін-Марцінкевіч, Гарун, Арсеньнева, Паўловіч, Сваяк, Зязюля. Горш таго, навет не ўспамінаюцца рэгабілітаваныя беларускія савецкія паэты: Чарот, Дарожны, Лявонны, Жылка, Вольны, Гурло, Хадыка. Да таго, тая савецкая дэлегацыя адкінула нямала ўжо ператлумачаных вершаў, а на іх месца дала да тлумачэньня звычайную вершаваную бальшавіцкую прапаганду і гэтым дала вымоўны прыклад як партыйнае засьляпленьне можа псаваць навет найлепшую рэч. Аднак, ня гледзячы на гэта, не зьмяншаецца заслуга Веры Рыч: яна сваім тлумачэньнем заняла паважнае месца ў гісторыі беларускае літаратуры".

# СЯРОД БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ

* 9 травеня Царкоўная Рада Парахвіі БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ладзіла ўрачыстасьць Дня Маткі. Пасьля сьв. Літургіі, Уладыка Андрэй адслужыў малебен за беларускіх матак. На банкеце ў царкоўнай залі ўсім маткам былі прышпіленыя кветкі. Шмат было прамоваў і прывітаньняў. Галоўны даклад пра Дзень Маткі зрабіў сп. Ю. Гасьцееў.

* 23 травеня адбылося парахвіяльнае сьвята БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Пасьля звычайнае сьв. Літургіі ў царкве, адбыўся крыжовы ход вакол царквы. Пасьля гэтага адбыўся супольны банкет, на якім, апрача Беларусаў, было шмат гасьцей ад Украінцаў і Казакаў. Было шмат прамоваў і прывітаньняў. З прычыны добрага надвор'я, пасьля колькіх агульных песьняў, усе паехалі на сьвежае паветра ў беларускі грамадзкі цэнтр „Полацак".

* 13 чырвеня Уладыка Андрэй з Протадыяканам Калістратам і дырыгентам царкоўнага хору К. Кісьлым ды шмат парахвіянаў езьдзілі адпраўляць Багаслужбу ў Дэтройт. Было прыемна бачыць новакупленую дэтройцамі царкву ды памаліцца ў ёй. Таксама было прыемна гасьцяваць за агульным сталом у новаадрамантаванай залі. Вярталіся дамоў зь вялікім задаваленьнем, што нашыя суродзічы ў Дэтройце зрабілі вялікі высілак, купілі невялікай групай собскую царкву із залай, дзе можна зьбірацца пры кажнай патрэбе.

* Ад 14 да 19 чырвеня адбывалася ў Кліўленьдзе міжнародная выстаўка ў найбольшай кампаніі „Мэй кампані" ў цэнтры гораду. Увесь паверх быў адведзены пад выстаўку. У выстаўцы прыняло ўдзел Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе. Апрача выстаўкі народнага мастацтва прадаваліся нацыянальныя беларускія стравы да падаваліся інфармацыі пра Беларусь вусна і раздаваньмі брашурамі. Належыцца вялікая падзяка ўсім жанчынам, што памагалі ў арганізацыі й правядзеньні выстаўкі ды прыгатавалі розных страваў на 6 дзён, з чаго ня кепскі быў і заработак. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне просіць падзякаваць ад ягонага імя, але, думаецца, жанчынам нашым належыцца падзяка ад усяго грамадзтва. Прозьвішчы жанчынаў, што прыймалі больш ці меншы ўдзел у выстаўцы, наступныя: Зося Лукашэвіч, Тацьцяна Кананчук, Ядзя Раковіч, Вольга Стрэчань, Галіна Васілеўская, Марта Лук'янчык, Іра Каляда-Сьмірнова, Эва Дунец, Надзя Каваленка, Ніна Кертэш, Еўфрасіньня Семянчук, Натальля Страпко, Клаўдзя Каляда, Галіна Міраеўская, Агнэс Яраховіч, Стэфа Гасьцеева. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне дзякуе таксама сяброўкам Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Галіне Кананчук, Дуні Дунец і Марысі Каваленка.

* 19 чырвеня сп-ва Гасьцеевы ладзілі банкет з нагоды заканчэньня вышэйшае асьветы іхнага сына Андрэя ў Нотардаме. Усе прысутныя разам з бацькамі цешыліся, што ўсё больш нашае моладзі канчае амэрыканскія высокія школы.

* 20 чырвеня на Беларускім Грамадзкім Цэнтры „Полацак" адбыўся агульны сход гэтае карпарацыі. Галоўны пункт парадку дня сходу — выбары новага кіраўніцтва „Полацку" быў з розных прычынаў адложаны. Было палагоджана колькі драбнейшых пытаньняў. Была выбраная камісія дзеля дагавору з электрычнай кампаніяй, якая хоча купіць кусок зямлі ад „Полацку". З прычыны нястачы грошай у гэтым годзе большых інвэстыцыйных працаў не праводзілася. Была толькі даконченая заля, купленая лодка, праведзеныя новыя электрычныя правады ў залю, на месца дзе адбываюцца маёўкі, і над возера, палепшаныя спартовыя пляцоўкі й інш.

* 26 чырвеня сп-ва Кананчукі ладзілі банкет з нагоды заканчэньня вышэйшае асьветы іхнае дачкі Галіны. Было вельмі шмат прысутных. Вечар закончыўся танцамі.

Апрача вышэй успомненых, сёлета закончылі вышэйшую асьвету Валодзя Страпко і Міхась Шпэньдзік. Усе яны належалі да танцавальнага гуртка моладзі, дзяжурылі на розных выстаўках і наагул былі актыўнымі ў беларускім жыцьці. Таму ўсіх іх вітаем із заканчэньнем вышэйшае асьветы ды моцна верым, што яны не адыйдуць ад грамадзкага жыцьця, а яшчэ больш аддадуцца працы на беларускай ніве.

* 11 ліпеня Кліўлендзкі Аддзел БАЗА ладзіў маёўку на Беларускім Грамадзкім Цэнтры „Полацак". Хоць пагода й ня зусім спрыяла, але маёўка прайшла вельмі добра. Жанчыны не забыліся падрыхтаваць добрае ежы ды інтэнсыўна працаваў буфэт з напіткамі. **Ул. Д.**

*СПРАВЫ МОЛАДЗІ*

# ЗЬЕЗД АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ

Днямі 3-5 ліпеня сёлета адбыўся чарговы перавыбарны Зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, а адначасна, пры гэтай-жа нагодзе, і Спартовая Сустрэча моладзі. Гэткія зьезды адбываюцца што два гады. Сёлетні Зьезд праходзіў у Полацку — беларускім грамадзкім селішчы каля Кліўленду. На Зьезд прыехалі прадстаўнікі 5-ёх Аддзелаў Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ды яшчэ, дзеля ўдзелу ў Спартовай Сустрэчы, сябры Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі із Саўт Рывэру — другой беларускай маладзёжнай арганізацыі. На Зьезьдзе былі рэпрэзэнтаваныя Аддзелы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі з Дэтройту (Мічыган), Таронта (Канада), Нью Брансьвіку (Нью Джэрзі), Нью Ёрку (Нью Ёрк) і Кліўленду (Огаё).

А першай гадзіне папаўдні 3 ліпеня, як было запланавана, пачаўся Зьезд. За старшыню Зьезду быў выбраны **Аўген Лысюк** (Нью Джэрзі), за сакратароў — **Ірэна Азарка** (Нью Джэрзі) і **Эва Пашкевіч** (Таронта).

Пасьля прыняцьця парадку дня былі прачытаныя, а ў некаторых выпадках вусна пададзеныя справаздачы зь дзейнасьці Галоўнага Кіраўніцтва й паасобных Аддзелаў АБАМ.

Тут трэба зазначыць, што Зьезд ня быў, нажаль, добра падрыхтаваны, бо ўступаючае Галоўнае Кіраўніцтва не парупілася паведаміць аб Зьезьдзе некаторых сяброў навет з Кліўленду, а таксама не запрасіла на Зьезд прадстаўнікоў старэйшага грамадзтва, навет тых, што былі засновальнікамі Арганізацыі й на працягу даўгіх год актыўна ў ёй працавалі. А Кліўленд-жа быў гаспадаром гэтага маладзёжнага Зьезду, на які прыехалі прадстаўнікі моладзі з усяе Амэрыкі — вялікая надзея ў жыцьці Арганізацыі.

Зьезд перавыбраў Галоўнае Кіраўніцтва Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі на наступную двухгадовую кадэнцыю. На старшыню Галоўнага Кіраўніцтва была аднагалосна выбраная **Раіса Станкевіч** зь Нью Ёрку. З кажнага Аддзелу (гэта было ўпяршыню запрапанавана й прынята на гэтым Зьезьдзе) быў выбраны віцэ-старшыня: усіх пяць віцэ-старшыняў або заступнікаў старшыні: **Галіна Кажура** зь Нью Джэрзі, **Эва Пашкевіч** — з Канады, **Гэлена Пляскач** — з Дэтройту, **Уладзімер Страпко** — з Кліўленду і **Галіна Тумаш** — зь Нью Ёрку. У склад Выканальнага Камітэту Галоўнага Кіраўніцтва, апрача старшыні **Раісы Станкевіч**, выбраныя (дзеля лепшай арганізацыі працы пераважна зь Нью Брансьвіку): **Юрка Азарка** — сакратар, **Мікалай Швэд** — скарбнік, **Алекс Харавец** — сябра Кіраўніцтва — усе зь Нью Брансьвіку, і на становішча рэфэрэнта вонкавых дачыненьняў **Юрка Курыла** зь Ньюёркаўскага Аддзелу.

Зьезд прывітала ў канцы прысутная на ім адзіная із старэйшага грамадзтва сп-ня Зінаіда Станкевіч зь Нью Ёрку. Яна адзначыла пазытыўную працу кажнага Аддзелу й выказала прызнаньне моладзі за ейны шматкольканы ўдзел у Зьезьдзе. Аднак із сумам зацеміла, што ня варта гэтак лёгка пераходзіць на ангельскую мову, бо-ж беларуская моладзь жыве ў сямейным асяродзьдзі, што карыстаецца выключна беларускай мовай, ды ў большыні сваёй наведвае ці наведвала беларускія сыботнія ці нядзельныя школы й добра ведае сваю родную мову.

Зьезд закончыўся прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля нарадаў Зьезду адбылося першае паседжаньне Галоўнага Кіраўніцтва, на якім былі падзеленыя функцыі сяброў Кіраўніцтва ды прадыскутаваны плян працы. У дыскусіі была ўзятая ўвага на патрэбу інфармацыі навонкі пра Беларусь і беларускія праблемы. У сувязі з гэтым новае Кіраўніцтва пастанавіла зьвярнуць асаблівую ўвагу на вонкавую дзейнасьць. Вельмі пазытыўнай зьявай быў паважны падыход нававыбранага Кіраўніцтва да сваіх абавязкаў.

Вечарам таго-ж дня адбылася танцавальная вечарына ў вадмыслова нанятай залі ў горадзе, якая прайшла весела й прыемна.

На другі дзень — у нядзелю пасьля Багаслужбы ў Саборы БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці, якую адслужыў Яго Высокапраасьвяшчэнства **Архіяпіскап Андрэй** у суслужэньні з дыяканам **Міхасём Страпком** і ў часе якой прывітаў Зьезд моладзі й маліўся за ейныя посьпехі ў працы, адбылася ўзноў у Полацку Спартовая Сустрэча паасобных дружынаў з розных мясцовасьцяў.

Першым было валейбольнае спаборніцтва. Дзявоцкая дружына з Кліўленду ўзяла першае месца, другое месца здабыла дружына із Саўт Рывэру, а трэйцяе — дружына Нью Ёрк-Нью Брансьвік. Першае месца заняла таксама й хлапцоўская дружына з Кліўленду, другое — зь Нью Брансьвіку, а трэйцяе — дружына Таронта-Дэтройт.

У скоках у даль дзяўчатаў першае месца здабыла **Галіна Кажура** зь Нью Джэрзі (12 футаў і 9 інчаў), другое месца — **Аніта Радзюк** з Кліўленду (10 футаў і 7 інчаў). У хлапцоўскіх спаборніцтвах у скоках у даль першае месца заняў **Юрка Арцішэнка** із Саўт Рывэру (16 футаў і 5 інчаў), другое — **Юрка Патапенка** з Кліўленду (16 футаў 1 інч).

Скокі ў высь: дзяўчаты — першае месца заняла **Галіна Арцішэнка** із Саўт Рывэру, другое — **Галіна Тумаш** зь Нью Ёрку.

У скоках у даль маладзейшых сяброў (падросткаў) першае месца заняў **Алекс Дунец** (14 футаў 2 інчы), другое — **Дан Ганас** (12 футаў 1 інч), абодвы з Кліўленду. У скоках у высь першае месца здабыў **Алекс Дунец**.

У гульні пінг-понг першае месца заняў **Міхась Зелагін** з Дэтройту, другое — **Юрка Сьмірноў** з Кліўленду, трэйцяе — **Міхась Яраховіч** таксама з Кліўленду.

Там-жа на селішчы Полацак на возеры адбыліся спаборніцтвы ў плаваньні, у якіх прынялі ўдзел толькі наймалодшыя (падросткі). Першае месца здабыў **Юрка Кушпан** з Кліўленду, другое — **Алекс Дунец** — таксама з Кліўленду. З другой групы, яшчэ малодшых першае месца заняў **Пётра Міраеўскі** з Кліўленду.

Пасьля ўсіх спборніцтваў там-жа ў Полацку адбылася танцавальная вечарына ў нова выканчанай залі. На вечарыне былі раздадзеныя **Уладзімерам Страпком** узнагароды пераможцам у спаборніцтвах.

Усю падрыхтавальную працу ў трэнінгу й упарадкаваньні пляцаў для гульняў добра выканаў **Валодзя Палонскі**, які таксама прымаў удзел у Кліўлендзкай валейбольнай дружыне, трэніруючыся зь ёю перад гэтым два разы на тыдзень. Ён быў і галоўным арганізатарам усіх спаборніцтваў ды судзьдзёю ў часе гульняў. Ня дзіва, што Кліўлендзкія спартоўцы выйшлі пераможцамі ў валейбольным змаганьні. За ўсё гэта належыцца Валодзі Палонскаму вялікая падзяка ад спартоўцаў Кліўленду.

Але ўсяму прыходзіць канец. Гэтак і тут у панядзелак давялося пакінуць увесь у зелені Полацак і гасьцінны Кліўленд ды вяртацца дамоў узбагачанымі новымі й карыснымі дазнаньнямі.

Я думаю, што Зьезд моладзі дасягнуў сваю мэту, а новае Галоўнае Кіраўніцтва будзе старацца за сваю двухгадовую кадэнцыю зрабіць нешта пазытыўнае дзеля агульнае справы. **Рая Станкевіч**

# 6-Ы ЗЬЕЗД КАМПАЗЫТАРАЎ БЕЛАРУСІ

6-ы Зьезд кампазытараў Беларусі, што адбыўся 20 травеня сёлета, быў папярэджаны партыйным сходам у Саюзе кампазытараў Беларусі ў лютым, прысьвечаным XXIV Зьезду Камуністычнай Партыі. На гэным сходзе прадстаўнікі партыі і ўраду выказалі свае вялікае незадаваленьне сучасным станам беларускае музыкі, што, на іхную думку, не даволі адлюстроўвае стваральную працу сучасьніка й героіку мінулай вайны.

Прысутны на сходзе намесьнік міністра культуры БССР Ю. Міхневіч, як інфармавала газэта „Літаратура і Мастацтва", у якасьці адмоўных прыкладаў **„пералічыў пяць ці шэсьць буйных музычных твораў, на якія з Міністэрствам культуры БССР падпісаны дагаворы, і зь іх толькі адзін ці два зьвязаны з барацьбой, змаганьнем, стваральнай працай савецкіх людзей."** Ілюструючы гэткае-ж свае незадаваленьне, сакратар партыйнай арганізацыі Саюзу кампазытараў Беларусі А. Ракава прывяла ня менш зыркі прыклад, што калі з Масквы прыехаў прадстаўнік праўленьня Саюзу кампазытараў СССР і хацеў выбраць колькі твораў на ваенна-патрыятычную тэму, дык **„значных новых твораў, твораў высока-мастацкіх, высокая патрыятычнага гучаньня аказалася ў беларускіх кампазытараў мала".**

Здавалася, што гэты партыйны сход у Саюзе кампазытараў Беларусі ў сваёй крытыцы незадаваленьнючага ідэйнага ўзроўню беларускае музкі будзе палітычным запевам або прэлюдыяй да 6-га Зьезду кампазытараў Беларусі. Тымчасам гэтага ня сталася. Зьезд у васноўным пайшоў па іншай, супярэчнай гэтай крытыцы лініі.

Праўда, і ў справаздачным дакладзе праўленьня Саюзу кампазытараў Беларусі, прачытаным на Зьезьдзе ягоным старшынём Рыгорам Шырмам, і ў дыскусіі падчырквалася патрэба высокага ідэйнага гучаньня музычных твораў і адлюстроўваньня ў іх важных праблемаў сучаснасьці. Але разам з гэтым сьцьвярджалася, што сучаснае беларуская музыка рэагуе на гэтыя праблемы даволі й не дае асновы да незадаваленьня. Рыгор Шырма ў сваім дакладзе, прыкладам, цьвердзіў, што **„важнай і тытанічнай рысай творчай працы беларускіх кампазытараў у вакальных жанрах зьяўляецца вялікая цікавасьць да актуальных грамадзка важных тэм".** Але галоўная і асноўная ўвага Зьезду засяроджвалася на дзьвюх кардынальных праблемах беларускага музычнага мастацтва: першае, на праблеме прафэсіяналізму й мастацкай якасьці музычных твораў, другое, на пытаньні беларускага нацыянальнага характару музыкі, ейнай нацыянальнай традыцыі й народна-фальклёрных вытокаў. Таленавіты малады беларускі кампазытар Ігар Лучанок у дыскусіі паставіў пытаньне як ня трэба лепш ясна: **„як-бы мы добра ні адчувалі патрабаваньні часу, — казаў ён, — якія-б тэмы ні закранялі, бяз сыстэматычнага павышэньня прафэсійнага майстэрства пісаць музыку, вартую нашага часу, нельга".**

У вабодных гэтых пытаньнях — прафэсіяналізму майстроўства й нацыянальнага характару музыкі ды ейных народных вытокаў быў сьцьверджаны значны крок наперад у міжзьездаўскім пэрыядзе, раўнуючы да стану перад папярэднім 5-ым зьездам Кампазытараў Беларусі ў лістападзе 1966 году. Больш таго, абодвы гэтыя пытаньні — прафэсіяналізму майстроўства й нацыянальных асноваў музычнага мастацтва ставіліся на сёлетнім зьезьдзе ў іхнай арганічнай сувязі, падчырквалася, што дасягненьні ў вадным пытаньні былі перадумовай і дасягненьнем у пытаньні другім, і наадварот.

Вось агульная ацэна беларускага музычнага мастацтва ў справаздачным дакладзе: **„Аглядаючы апошнія пяцігодзьдзе ў разьвіцьці беларускай музыкі, мы бачым, што стылявой яе асновай застаецца народная песьня . . ., што нашы кампазытары імкнуліся спалучаць клясычныя і нацыянальныя рэалістычныя традыцыі з багатым 50-гадовым вопытам разьвіцьця многанацыянальнай музычнай культуры Савецкага Саюзу . . . „што адчуваецца пэўны поступ наперад у вырашэньні складаных пытаньняў уздыму прафэсіяналізму ўва ўсіх жанрах . . ., што музыканты рэспублікі імкнуцца ўсебакова разьвіваць нацыянальную школу", і гэтак далей.**

Усе гэтыя свае цьверджаньні дакладчык праілюстраваў лепшымі творамі беларускае музыкі. Гэтак, вітаючы **„зварот кампазытараў рэспублікі да ідэйна значных тэмаў, зьвязаных з нацыянальнай гісторыяй, з паэзіяй і літаратурай",** Рыгор Шырма праілюстраваў гэтую зьяву опэрамі „Выбраньніца" Глебава, „Зорка Вэнэра" Семянякі, „Заранка" Цікоцкага, „Ранак" Вагнэра, „Рабінава ноч" Цесакова.

Сымфанічную кантату „Беларускія песьні" А. Багатырова даклад-

**(Заканчэньне на 5-ай бачыне)**

# СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА МОЛАДЗІ

У канцатыдні 24-25 ліпеня на беларускім адпачынковым селішчы Бэлейр-Менск адбылася спартовая сустрэча беларускае моладзі. Гэткія сустрэчы, арганізаваныя адмысловым Камітэтам дзьвюх беларускіх маладзёжных арганізацыяў — Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі й Саюзу Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, у склад якога ўваходзяць Рыгор Арцішэнка — старшыня і Вальтар Палонскі й Аўген Лысюк — сябры, адбываюцца штогоду.

У сёлетняй сустрэчы прынялі ўдзел Аддзелы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Кліўленьдзе, Нью Джэрзі й Нью Ёрку ды Саюз Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Саўт Рывэры. У праграме сустрэчы адбываліся наступныя спартовыя спаборніцтвы й гульні:

**1. Кіданьне зялезнай куляй** з выйгрышным вынікам: Федзя Палонскі — 35,5 і Рыгор Азарка — 35,3.

**2. Скок у даль:** хлопцы: Рыгор Арцішэнка — 15,8 і Вальтар Страпко — 15,4; дзяўчаты: Вера Арцішэнка — 10,10 і Ірэна Занковіч — 10,00.

**3. Скок у высь:** хлопцы — Рыгор Арцішэнка — 61 і Рыгор Патапенка — 60; дзяўчаты — Ірэна Занковіч — 52 і Вера Арцішэнка — 51.

**4. Валейбол (сетка).** Першыя й другія месцы занялі: дзяўчаты — Саўт Рывэру й Кліўленду; хлопцы — Кліўленду й Саўт Рывэру.

**5. Плаваньне —** пераможнікі Федзя Палонскі й Рыгор Азарка.

**6. Пінг Понг:** Міхась Шпэньдзік і Вальтар Страпко з вынікам 2:1.

Вечарам 24 ліпеня адбылася ў залі Бэлейр-Менску танцавальная вечарына моладзі, у часе якой былі раздадзеныя ўзнагароды спартовым пераможнікам.

Ужо апрацаваныя пляны спартовых сустрэчаў у наступным годзе: у канцатыдні 4-га ліпеня ў Кліўленьдзе і ў вапошнім канцатыдні сэзону на Бэлейр-Менску. **Аўген Лысюк**

### АГУЛЬНЫ СХОД АБАМ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

17 ліпеня сёлета адбыўся Агульны Сход Кліўлендзкага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Кліўленьдзе. Сход правялі Ул. Дунец — старшыня Сходу й К. Калоша — сакратар. Уступаючы кіраўнік Арганізацыі Міхась Шпэньдзік зрабіў кароткую справаздачу зь дзейнасьці Арганізацыі, а Маруся Каваленка прачытала акт Рэвізійнае Камісіі.

Новае кіраўніцтва Аддзелу было выбранае ў складзе: Галіны Кананчук — кіраўнік, Марысі Каваленка — заступнік кіраўніка, Олі Дубановіч — сакратар, Валодзі Страпко — скарбнік, Аніты Радзюк, Міхася Мітраховіча, мал., і Валодзі Дунца — сябры кіраўніцтва. За спартовага кіраўніка былі выбраны Валодзя Палонскі, за кіраўнічку танцавальнага гуртка — Галіна Кананчук, над бэйзболам — Янка Яраховіч. За капітана валейбольнай дружыны выбраны Валодзя Страпко. Таксама былі Сходам запрошаны на дараднікаў Арганізацыі былыя актывістыя маладзёжнай арганізацыі Ул. Дунец і К. Калоша.

### МАЛАДЗЕЖНАЯ МАЁЎКА У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

18 ліпеня Кліўлендзкі Аддзел АБАМ ладзіў на беларускім грамадзкім цэнтры „Полацак" маёўку. Вельмі прыгожае было надвор'е і маёўка прайшла ўзапраўды ўдала. Вельмі прыемна было глядзець, як маладзенькія хлопцы й дзяўчаты працуюць пры падрыхтоўцы ежы. Маладзежная маёўка розьнілася ад іншых тым, што была больш рухлівая й актыўная. Адбылося колькі спартовых спаборніцтваў і гульняў. Было таксама змаганьне ў сетку старэйшых з малодшымі. Хоць старэйшыя й прайгралі з вынікам 2:1, але крыху напалохалі малодшых.

**Ул. Д.**

# МАРКІ БНР У АФІЦЫЙНЫМ УЖЫТКУ У АНГЕЛЬШЧЫНЕ




**Маркі БНР, ужываныя Поштай ЗБВБ і ганараваныя ангельскімі паштовымі ўладамі**

Гісторыя „Пошты ЗБВБ" (Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі), у часе сёлетняе паштовае забастоўкі ў Ангельшчыне, (гл. сёлетні сакавіковы нумар „Беларуса"), мае ў сабе цімала цікавых дэталяў, некаторыя зь якіх варта тут падаць да ведама. Гэта можна зрабіць дзякуючы таму, што сп. Гай Пікарда, сакратар Англа-Беларускага Таварыства ў Лёндане й шчыры прыяцель Беларусаў, быў ласкавы прыслаць да нашага ўжытку адпаведны матар'ял.

Дазвол арганізаваць „Пошту ЗБВБ" быў дадзены вусна 16 лютага 1971 г., а наступнага дня пацьверджаны пісьмова ад імя Паўночнае Паштовае Акругі Лёндану. Вось тэкст гэнага дазволу:

„Сп. Г. Пікарда
Згуртаваньне Беларусаў
52 Пэнн Роўд
Лёндан Н. 7
Пав. Сп. Пікарда.

Гэтым сьветчыцца, што Вы маеце дазвол арганізаваць прыватную паштовую службу ад імя Згуртаваньня Беларусаў, што пад адрысам 52 Пэнн Роўд, Н. 7, да часу, калі нутраная перасылка лістоў першае клясы, а таксама заморская паветраная пошта будуць адноўленыя. — Д. А. Філіп, за Акруговага Поштмайстра".

У выдадзеным наступнага дня, 18 лютага 1971 г., прэсавым камунікаце Ўправы ЗБВБ паведамлялася пра заснаваньне „Пошты ЗБВБ", падаваліся адрасы часовых паштовых кантораў ды кошт перасылкі лістоў. „Маркі дэнамінацыі 10 і 20 пэнсаў, — казалася ў паведамленьні, — можна набыць у часовых канторах. **Можна ўжываць таксама маркі (належна аплачаныя) Беларускай Народнай Рады".**

Гэткім парадкам, ад 18 лютага да 8 сакавіка 1971 г. у Ангельшчыне ў афіцыйным ужытку „Пошты ЗБВБ" былі маркі БНР.

Што да гісторыі паўстаньня гэтых марак, дык пра яе коратка паінфармаваў сп. Ул. Шыманец у сваім лісьце да сп. Г. Пікарды з 2. V. 71.

Сп, Шыманец піша: „Я меў некаторыя дачыненьні зь іхным выданьнем, але не як выдавец, а як Міністр Фінансаў БНР . . . Маркі друкаваліся ў Нямеччыне, дзе знаходзіўся тагачасны Ўрад БНР, які быў кіраваны Прэм'ерам сп. Аўгенам Каханоўскім. Першы выпуск марак быў наладжаны маім папярэднікам сп. Віталем Кажаном. Тады былі выдадзеныя тры маркі: 1. Марка вартасьці тры талеры з партрэтам Пётры Крэчэўскага, фіялетавага колеру, якой пазьней я даў нумар 1; 2. Марка вартасьці адзін талер з партрэтам Васіля Захаркі, чырвонага колеру (№ 2); урэшце, марка № 3 вартасьці 50 грошаў з Домам Рады БНР у Менску, зялёнага колеру.




**Гэтак выглядалі лісты Пошты ЗБВБ зь беларускімі паштовымі маркамі**

„Гэта ўжо падчас мае кадэнцыі паўстала патрэба на маркі больш дробнай вартасьці, і тады гэта я быў ініцыятарам выданьня яшчэ трох марак: з Прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам, з Пагоняю, ды з картаю этнаграфічнае Беларусі. Выданьне першай маркі было адложана з увагі на пярэчаньне самога-ж Прэзыдэнта, дзьве іншыя маркі былі надрукаваныя ў Заходняй Нямеччыне стараньнем самога Ўраду, які ўсьцяж яшчэ знаходзіўся ў Нямеччыне, ды захадамі сп. В. Кажана, які быў маім прадстаўніком пры Ўрадзе. Праект апошніх трох марак я сам рабіў, тымчасам як мастак папярэдніх трох мне ня ведамы. Із запраектаваных трох, як бачыце, выйшлі дзьве: нумар 4 вартасьці 25 грошаў, з Пагоняй, чырвонага колеру, ды нумар 5 з картай этнаграфічнае Беларусі, вартасьці 10 гр., сіняга колеру. Вось выпіска зь ліста сп. Кажана, адрысаванага мне (з 11 VI. 1950): „Хачу Вам паведаміць, што маркі ўжо друкуюцца і да 16. VI. 1950 г. будуць гатовыя. Залучаю пры гэтым першыя адбіткі . . . Да друку аддаў на чырвоны колер па 5000 і на цёмна-сіні па 5000. Значыць, да гэтай сэрыі пойдзе Пагоня чырвонай, а карта Беларусі цёмна-сіняй. Разьмер такі-ж як і тыя, бо гэта будзе адна сэрыя".

„Вось гэта жменька дэталяў, якія я мог знайсьці ў маіх актах ды ўспамінах. Вы можаце зьвярнуцца яшчэ да сп. Кажана . . . Думаю, што сп. Кажан, як беспасярэдня адказны за выкананьне прапановы Ўраду, зможа Вам падаць тыя дэталі, якія выпалі з мае ўвагі".

Гэтак вось, дзякуючы стараньням самаахвярных людзей, перш-наперш і галоўна сп. Гая Пікарды, вытказўся калярытны эпізод гісторыі „Пошты ЗБВБ" з маркамі БНР.

**Я. З.**

# МАЛАДАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПАЭТЫЧНАЯ ЗЬМЕНА (II)

Калі вызначаць мяжу ў часе паміж ростам і прагрэсаваньнем сярод моладзі літаратурнага ўздыму, зроджанага дэсталінізацыяй, і ягоным пунктам звароТным — выразным, хоць і павольным спачатку, спадам, дык за мяжу гэткую найбольш мэтазгодна, на нашую думку, прыняць 5-ы зьезд пісьменьнікаў Беларусі ў палавіне травеня 1966 году.

Да гэнага часу партыя як быццам адно прыглядалася з боку да ўсяго таго, што адбывалася ў літаратуры, ня ўмешваючыся яшчэ выразна ў літаратурнае жыцьцё. Затое ад пачатку 66-га году сытуацыя пачала зьмяняцца. Каб паўстрымаць імкненьні пісьменьнікаў да штораз большага іхнага вызваленьня ад ідэялягічных догмаў і эстэтычных схэмаў мінулага, партыя знайшла патрэбным вярнуцца да больш строгага рэглямантаваньня літаратурнага працэсу. Гэта выразна выявілася на XXIII зьезьдзе КПСС у сакавіку-красавіку 1966-га году, а ў дачыненьні да беларускай літаратуры — у справаздачным дакладзе старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі **Пятруся Броўкі** на 5-ым пісьменьніцкім зьезьдзе.

Занятую на гэтым зьезьдзе Пятрусём Броўкам пазыцыю неўзабаве падхапіў і завайстрыў часапіс „Маладосьць у сваім рэдакцыйным, трэба думаць, інсьпіраваным партыйнымі дзейнікамі, артыкуле, ў якім пісалася: **„Нельга абмінуць маўчаньнем той факт, што некаторыя маладыя і пачынаючыя пісьменьнікі замест глыбокага адлюстраваньня жыцьця ва ўсёй яго шматграннасьці топчуцца на маленькім пятачку дробных, прыватных тэм".** Пасьля гэтае суровае крытыкі, у артыкуле ішлі й дырэктыўныя накіроўваньні маладых пісьменьнікаў. Там пісалася: **„Забараненых тэм няма. Пісьменьнік можа выбіраць і любую форму, якая яму патрэбна, каб ярчэй выявіць ідэю твору, што служыць нашай агульнай справе. Але шэрасьць, ілюстрацыйнасьць, як халоднае рамесьніцтва, бязумоўна, павінны быць забаронены".**

Усе гэтыя закіды ў артыкуле ў запраўднасьці былі называньнем пазытыўных зьяваў у творчасьці маладых нэгатыўнымі тэрмінамі. Усё тое, пра што біла трывогу „Маладосьць", можна агульна схарактарызаваць, як нежаданьне маладых пісьменьнікаў ставіць сваю творчасьць на службу надзённае партыйнае палітыкі ды як імкненьне да творчае свабоды, да неабмежанага ніякімі догмамі й дырэктывамі выказваньня ўсяго таго, што накіпела ў паэтавай душы. Гэткая пазыцыя маладых і наймалодшых пісьменьнікаў і паэтаў не пахіснулася аж да апошняга часу. Затое з колькаснага боку прыход новых талентаў у паэзію пачынае цяпер сыстэматычна зьмяншацца.

Як сьцьвердзіў у сваім артыкуле пра паэзію маладых **Ніл Гілевіч** напярэдадні 5-га пісьменьніцкага зьезду ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 26 красавіка 66-га году, **„за апошнія паўтара гады на старонках „Маладосьці", „Чырвонай зьмены", „Літаратуры і Мастацтва", „Полымя" і іншых рэспубліканскіх выданьняў было надрукавана некалькі сот вершаў звыш сямідзесяці аўтараў, якія робяць свае першыя крокі ў паэзіі".** Затое за наступныя паўтара гады пасьля 5-га пісьменьніцкага зьезду ў згаданых літаратурных часапісах і газэце „Літаратура і Мастацтва", — не бяручы ўвагі на „Чырвоную зьмену", як газэту ня літаратурную, у якой звычайна друкуюцца й творы недасьпелыя яшчэ, — дэбютавала ўжо няпоўная дваццатка маладых аўтараў паэзіі. Зь іх стала замацаваліся ў паэзіі наступнымі гадамі й выявілі сябе, як здольныя й таленавітыя паэты, **Раіса Баравікова, Ніна Шклярава, Ніна Мацяш, Язэп Скурка, Марыя Шаўчонак, Васіль Кузьміч, Сяргей Законьнікаў, Анатоль Казловіч, Віктар Гардзей** ды некаторыя іншыя.

Яшчэ больш раптоўны спад прыходу ў літаратуру новых маладых паэтаў зазначыўся ў 1968 годзе, калі знаходзім у літаратурным рэспубліканскім пэрыядычным друку ўсяго колькіх, хоць і здольных паэтаў, як **Людміла Забалоцкая, Кастусь Шавель, Галіна Каржанеўская, Марыя Баравік.** У 1969 годзе друкуюць першыя свае вершы ў рэспубліканскіх літаратурных органах **Павал Марцінэвіч, Аўген Хвалей, Анатоль Груша, Валянтына Хамчук.** Год 1970 адзначыўся паэтычным дэбютам вельмі здольнай паэткі **Таісы Бондар і Сьвятланы Лобач.**

Згаданыя паэты становяць сяньня групу наймалодшых у маладой зьмене ў беларускай паэзіі. Хоць прыплыў моладзі ў літаратуру апошнімі гадамі й значна зьменшыўся і пра масавасьць новых паэтычных імёнаў гаварыць ужо не даводзіцца, тым ня менш і наймалодшыя паэты із самага пачатку цьвёрда становяцца на ідэйныя й мастацкія пазыцыі, што й іхныя старэйшыя сябры колькі год таму. Галоўнай і для ўсіх іх агульнай азнакай тое, што іхная творчасьць сваімі вытокамі вырастае із самабытнай нацыянальнай глебы, глыбака насычаная пачуцьцём беларускага патрыятызму, бязьмежнай любасьцяў да ўсяго роднага.

Асабліва характэрна й тое, што ў гэтым часе два здольныя маладыя паэты, што пачалі сваю паэтычную дзейнасьць у расійскай мове — **Леанід Дайнека й Леў Мароз,** пад уплывам агульнага патрыятычнага ўздыму сярод маладых, перайшлі цалкам на беларускую мову. Першы зборнік паэзіі на беларускай мове Леаніда Дайнекі „Галасы", што выйшаў у 69-ым годзе, спаткаўся зь вельмі прыхільнай ацэнай крытыкі галоўна з прычыны глыбокіх патрыятычных пачуцьцяў зьмешчаных у ім вершаў. Праблеме беларускага патрыятызму ўжо пасьля выхаду гэтага зборніка прысьвяціў Леанід Дайнека сваю першую паэму пад сымбалічным загалоўкам „Ключ", надрукаваную ў сёлетнім студзенскім нумары часапісу „Маладосьць".

Свой пераход у паэзіі на беларускую мову Леў Мароз задэкляраваў у сваёй заяве да першых сваіх вершаў на гэтай мове, што былі надрукаваныя ў сьнежанскім нумары „Маладосьці" за 1968 год. Ён з хваляваньнем прызнаваўся: **„Пісаў на рускай мове . . . І раптам абудзілася ў душы яна, мова родных мясьцін, мова маёй маці. І здарылася нечаканае — загучэла музыка слоў. Зьявіліся беларускія вершы. Устрапянулася памяць".** Гэткім парадкам, беларуская літаратура прыдбала сабе двух новых маладых паэтаў.

Калі ўжо сёлета, у сувязі з партыйнымі зьездамі — рэспубліканскім і ўсесаюзным, а таксама із 6-ым зьездам пісьменьнікаў Беларусі партыйны націск на беларускую літаратуру дасягнуў свайго найвышэйшага пункту й вайстрыні, дык якраз літаратурная моладзь аказалася найбольш устойлівай і непахіснай у сваёй вернасьці свайму паэтычнаму сумленьню. Маладыя беларускія пісьменьнікі зусім ляяльна адлюстроўваюць у сваёй творчасьці рэкамандаваныя сяньня тэмы й праблемы часу — сучаснай савецкай рэчаіснасьці. Але, разам з гэтым, яны ня перастаюць адлюстроўваць у сваёй творчасьці й найбольш кроўныя для іх пытаньні нацыянальнай апрычонасьці, што становяць нявычэрпную крыніцу іхнага творчага натхненьня.

Найзырчэй гэта сфармулявала маладая паэтка **Жэня Янішчыц** у літаратурнай дыскусіі, што вялася напярэдадні 6-га пісьменьніцкага зьезду ў „Літаратуры і Мастацтве" сёлета. Выступаючы ад імя маладых паэтаў, Жэня Янішчыц пісала: **„Мы павінны слухаць час, але і пільней углядацца ў адметныя рысы нашага нацыянальнага жыцьця. І заўсёды адчуваць сваю адказнасьць перад літаратурай і чытачом".**

Гэтыя вось „адметныя рысы нашага нацыянальнага жыцьця", што знаходзяць жывы водгук у творчасьці паэтычнай моладзі, гэтае ейнае „адчуваньне адказнасьці перад літаратурай і чытачом" — тыя жыватворныя й трывалкія асновы, на якіх вырастае й разьвіваецца творчасьць нашае маладое паэтычнае зьмены.

**Андрэй Ськіба**

# 6-Ы ЗЬЕЗД КАМПАЗЫТАРАУ БЕЛАРУСІ

**(Заканчэньне з 4-ай бачыны)**

чык назваў **„творам магістральнага шляху разьвіцьця гэтага жанру ў Беларусі"** і даў ёй наступную характарыстыку: **„Любоў да роднай зямлі і народу, да песьні і мовы народнай, багацьце новых музычна-стылявых рысаў ставяць твор Багатырова на ўзроўні лепшых дасягненьняў кантата-аратарыяльнай творчасьці сучаснай савецкай музыкі".**

Да твораў, што **„зьвязаны з нацыянальнай беларускай глебай і нясуць у сабе аптымістычны ідэйны зарад"** ды **„вельмі ўдала перадаюць калярыт народных вытокаў музыкі"** дакладчык залічыў Восьмую й Дзевятую сымфонію М. Аладава, Чацьвертую сымфонію Л. Абеліёвіча, сымфоніі Г. Вагнэра й Г. Суруса. Таксама на шмат якіх прыкладах былі адзначаныя высокія мастацкія дасягненьні дзякуючы іхнаму нацыянальнаму калярыту й народным вытокам гарманізацыі як салёвых, гэтак і харавых беларускіх народных песьняў ды песьняў на словы беларускіх паэтаў.

Кіруючыся шчырай руплівасьцяй пра далейшае разьвіцьцё беларускага музычнага мастацтва й павышэньня ягонага прафэсійнага майстроўства на найбольш урадлівай нацыянальнай і народнай глебе, дакладчык і некаторыя ўдзельнікі дыскусіі зьвярнулі ўвагу ў на некаторыя адмоўныя зьявы ў музыцы. Дакладчык войстра асудзіў кампазытара Д. Смольскага й навет Я. Глебава за іхную няўвагу, як казаў ён, да **„культуры слова, агульнай мастацкай культурнай першаасновы нашых твораў",** праілюстраваўшы гэта прыкладамі песьняў на тэксты бязгустоўных вершыкаў расейскіх паэтаў У. Арлова й М. Алтухова, цьвярдзячы літаральна, што іхны **„тэкст дыскрэдытуе музыку і задуму кампазытара".** Дакладчык выказаў пажаданьне, **„каб і ў стылявых адносінах інструментальныя творы, скажам, С. Картэса і А. Янчанкі, болей набліжаліся да беларускай нацыянальнай глебы".** Сьцьвердзіўшы нацыянальныя й народныя вытокі творчасьці бальшыні беларускіх кампазытараў, Рыгор Шырма ўсё-ж выказаў і агульную трывогу, кажучы: **„Як не хапае часам нашай музыцы самабытнага зьместу і нацыянальнай своеасаблівасьці мовы"!**

Нам здаецца, што Рыгор Шырма ў сваім дакладзе значна перабольшыў дасягненьні прафэсіяльныя й нацыянальныя беларускага музычнага мастацтва апошняга часу. Атрымліваецца ўражаньне, што Рыгор Шырма, сам вялікі энтузіясты беларускага прафэсійнага й народнага музычнага й песеннага мастацтва й моцна заслужаны ў справе ягонага разьвіцьця, шчыра й прагна ім жаданае ўзяў за сапраўднае.

Тым ня менш, падобна як і 6-ы Зьезд пісьменьнікаў Беларусі, 6-ы Зьезд кампазытараў Беларусі кіраваўся шчырай руплівасьцяй пра далейшае разьвіцьцё беларускай музыкі, пра ейны прафэсіяльны ўзровень, высокае майстроўства й нацыянальную самабытнасьць. Дзякуючы гэтаму, Зьезд, трэба спадзявацца, станецца стымулам у далейшай творчасьці як паасобных кампазытараў, гэтак і беларускае нацыянальнае музыкі ў цэласьці, творчасьці, насычанай нацыянальнымі асаблівасьцямі зьместу й музычнага гучэньня.

**Раман Шарупіч**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Вашынгтонская газэта „Ўошынгтон Нью Апроўч"** („Вашынгтонскі Новы Падыход") у нумары 3-м за чырвень 1971 г. зьмясьціла „Рэзалюцыю ў справах замежнае палітыкі дэлегатаў Рэспубліканскае Рады Нацыянальнасьцяў". Беларусь у рэзалюцыі азначаецца, як „паняволеная нацыя" ды выказваецца прапанова, каб радыё „Голас Амэрыкі" наладзіла перадачы ў беларускай мове.

**Маскоўская „Литературная газета"** за 11-га жнівеня сёлета зьмясьціла артыкул свайго менскага карэспандэнта А. Стука пад загалоўкам „Зраднікі ў эфіры". У артыкуле А. Стук крытыкуе беларускія літаратурныя перадачы радыё „Свабода" ды зьвінавачвае паасобных працаўнікоў Беларускае сэкцыі ў супрацоўніцтве зь нямецкімі акупантамі на Беларусі.

**На Захадзе пашыраецца цяпер падпольны дакумэнт** з Савецкага Саюза пад назовам „Слова нацыі". Ён падаецца, як маніфэст „расейскіх патрыётаў". Месца й дата напісаньня гэтага дакуманту няведамыя. У гэтым „маніфэсьце", поўным зьнявагі нерасейскіх нацыяў СССР (прыклад: „закаўказкія рэспублікі ператварыліся ў пачварную паразытычную нарасьць на целе краіны") кажацца, між іншага, што беларуская нацыя падтрымваецца штучна ды што беларуская мова — нічога іншага, як „збор заходнярускіх дыялектаў". Выказваючыся пра ўкраінскае пытаньне, „маніфэст" цьвердзіць, што „цэлыя вобласьці Ўкраіны правільней было-б залічыць да Расеі". Як бачым, гідра вялікадзяржаўніцкага шавінізму намагаецца пралазіць праз усялякія шчыліны, і ня трэба выключаць магчымасьці, што „маніфэст" гэты — звычайная хвальшыўка якіх-небудзь НТС-аўцаў або ім падобных расейскіх эмігрантаў.

**Украінская газэта „Амэрыка"**, што выходзіць у Філядэльфіі, у сваім англамоўным выданьні за 8. 7. 71 падала вестку пра выхад паангельску кнігі беларускага сьвятара Язэпа Гэрмановіча „Кітай, Сібір, Масква". (У газэце памылкова названа „Кіеў, Сібір, Масква"). У паведамленьні кажацца, што кніга гэтая „павінна быць цікавай для Ўкраінцаў, бо аўтар піша ў ёй пра ўкраінскіх сяброў-зьняволеных, зь якімі ён правёў час у савецкіх канцэнтрацыйных лягерох".

**Паводля летняга раскладу перадачаў Ватыканскага** радыя, беларускія (15-хвілінныя) праграмы гэтага радыя перадаюцца штонядзелі а гадзіне 6:15 ураньні паводля заходня-эўрапейскага часу (час Грынвіцкага мэрыдыяну) у дыяпазоне 19 і 25 мэтраў, а таксама нядзелямі, панядзелкамі, серадамі й пятніцамі а гадз. 18:05 у дыяпазоне 25, 31 і 41 мэтраў.

Ёсьць весткі, што беларускія перадачы радыя Ватыкану чуваць у Аўстраліі, дык трэба прыпушчаць, што іх можна таксама пачуць і на амэрыканскім кантынэньце.

**„Параўнальная гісторыя славянскіх літаратараў"** — гэтак завецца кніга літаратураведа Дзьмітры Чыжэўскага, выдадзеная нядаўна ў перакладзе зь нямецкае ў ангельскую мову ў выдавецтве Вандэрбільцкага ўнівэрсытэту ў амэрыканскім горадзе Нэшвіл, штат Тэнэсы. Абвестку пра выхад гэтай кнігі зьмясьціў амэрыканскі квартальнік „Славік Рэв'ю" ў чырвенскім нумары за сёлетні год. У кнізе між іншых славянскіх літаратураў разглядаецца таксама й літаратура беларуская. Кніга мае 235 балонаў і каштуе дзесяць даляраў.

**Як падала выдаваная ў Беластоку беларуская газэта „Ніва" з 27 чырвеня сёлета, на Беласточчыне паступова пабольшваецца колькасьць зямлі пад аднаасобнымі гаспадаркамі.** Паводля „Нівы", з усяе ворнае, лугавое й балотнае зямлі на Беласточчыне, якое налічваецца паўтара міліёны гэктараў, да аднаасобных гаспадарак належыць міліён 180 тысяч гэктараў, г. зн. блізу 75% зямлі. Працэс пабольшваньня аднаасобных гаспадарак усьцяж адбываецца. Цяпер сярэдняя гаспадарка мае дзесяць гэктараў і гэта, як піша газэта, „дае шанс весьці някепскую збожжавую прадукцыю, асабліва збожжа, патрэбнага на корм". Павялічыўся ў выніку гэтага і лік пагалоўя жывёлы ў беластоцкіх сялянаў: кароў, сьвіней і авечак.

**Ужо трэйці год узапар у канадзкім горадзе Тароньце** зь ягоным шматнацыянальным жыхарствам адбываецца свайго роду міжнацыянальны фэстываль дружбы, г. зв. „Караван". У часе „Каравану", што сёлета трываў ад 24 чырвеня да першага ліпеня, у Тароньце можна было наведаць 34 нацыянальныя „сталіцы". „Сталіцамі" у часе „Каравану" станавіліся нацыянальныя асяродкі гораду — цэрквы й народныя дамы розных этнічных групаў. Аднэй із „сталіцаў" быў беларускі „Менск" — будынак беларускае праваслаўнае царквы й грамадзкага дому, што знаходзяцца на праспэкце (авэню) Сэнт-Клярэнс.

У адмыслова выдадзеным правадніку-маршруце „Каравану" з плянам гораду і назовамі ўсіх 34-х „сталіцаў" пра „Менск" казалася наступнае: „Менск — сталіца Беларусі, славянскага краю, гісторыя якога сягае ўглыбкі ў дзевятае стагодзьдзе. Ён мае ўнікальную культуру, як пра гэта сьветчыць паказ абразоў ды мастацкіх вырабаў і як пацьвярджае гэта музыка й танцы ў менскім павільлёне".

На працягу васьмёх дзён тароньтаўскага „Каравану" ў „Менску" — беларускім грамадзка-культурным цэнтры Таронта — моладзь беларускага паходжаньня знаёміла наведвальнікаў зь Беларусяй, беларускай нацыянальнай культурай. Пераважная бальшыня наведвальнікаў тарантаўскага „Менску" складалася з карэнных жыхароў Таронта, турыстаў ды прадстаўнікоў іншых нацыянальных групаў гораду, што цікавіліся жыцьцём сваіх суседзяў-Беларусаў.

**Кніга былога прэзыдэнта АН БССР акадэміка Купрэвіча пад заг. „Акадэмія навук Беларускай ССР"** — ейнае другое выданьне — яшчэ ў 1969 годзе была выдадзеная ў Вашынгтоне ў ангельскім перакладзе. Нядаўна амэрыканскае інфармацыйнае агенцтва „Юнайтэд Стэйтс Інформэйшэн Эйджэнсы" (ЮСІА) паведаміла, што ангельскі пераклад працы Купрэвіча „Акадэмія навук Беларускай ССР" у 1971 годзе будзе даступны таксама на мікрафільме й мікракартках, пашыраючы гэткім парадкам кола англамоўных чытачоў кнігі.

**Украінская Інфармацыйная Служба „Смолоскып",** што знаходзіцца ў амэрыканскім горадзе Балтымо-ры, штат Мэрылэнд (паштовая скрынка № 6066) апублікавала ў кніжным выданьні першыя два нумары выдаванага на Ўкраіне падпольнага „Украінскага Весьніка". На балонках 224-227 гэтага выданьня знаходзіцца агляд артыкулу ўкраінскага савецкага публіцыста Валентына Мароза „Майсей і Дантон". Гэта адказ В. Мароза на артыкул беларускае савецкае паэткі Еўдакіі Лось у маскоўскай „Літаратурнай газэце" № 36 за 1969 год. У рэакцыі на гэны артыкул вернападданьніцкага характару В. Мароз справядліва адзначае, што перад тым, як выказваць любасьць да іншага (у выпадку Лось расейскага) народу, трэба любіць свой собскі народ, каб ня ставіць яго ў становішча меншавартаснага.

## КАМУНІКАТ № 2/71

**Дарагія Суродзічы Беларусы!**

Мы ўжо зьвярталіся з падобнай вялікай просьбай да Вас мінулымі гадамі. Зьвяртаемся й сёлета. Беларускі Выдавецка-Мастацкі Клюб „Пагоня" і ў сёлетнім годзе ладзіць выйгрышную лятарэю з мэтаю здабыцьця фінансавых сродкаў на выданьне Гісторыі Беларусі ў ангельскай і беларускай мовах, адсутнасьць якой усе мы балюча адчуваем.

I гэтым разам мы перасылаем Вам лятарэйную кніжачку (у ёй 25 білецікаў па 50 цэнтаў кажны на суму 12.50 дал.), і ветліва просім Вас адкупіць яе самому ці распрадаць білецікі сярод Вашых сяброў і знаёмых, і тым самым дапамагчы нам супольна зрэалізаваць і выдаць гэтак неабходную Гісторыю Беларусі, за што мы будзем Вам вельмі ўдзячныя й забавязаныя.

Гэтым разам 500 дал. будуць разыйграныя на выйгрышы, — а іх будзе 5 такіх: 250 дал., 100 дал. і тры выйгрышы па 50 дал., — прадавец-жа першага выйгрышнага білету (250 дал.) атрымае 25 дал. узнагароды.

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ! Яшчэ раз Вас просім: калі ласка, дапамажыце нам у нашай паважнай і адказнай задуме выдаць Гісторыю Беларусі, бо толькі й толькі ад Вашай дапамогі залежыць посьпех перанятай намі ініцыятывы, на што мы пераконліва разьлічваем і чакаем.

Усім тым, хто добразычліва адгукнецца, шчыра дзякуем.

**Управа Клюбу „Пагоня"**

## ЗДАБЫЛІ СЯРЭДНЮЮ АСЬВЕТУ



**Ірэна Азарка**



**Галіна Кажура**

Сёлета ў чырвені скончылі сярэднюю асьвету дзьве прыгожыя спадарычні зь беларускай калёніі ў Нью Джэрзі. **Ірэна Азарка,** дачка Марыі й Янкі Азаркаў, ведамых з грамадзкае актыўнасьці, закончыла Гай Скул (сярэднюю школу) у Франклін Таўншып у Нью Джэрзі. У школе яна была арганізацыйна дзейнай студэнткай, прыймаючы ўдзел у наступных арганізацыях: Пэп Кляб, Хор, Твірлер і Б.А.І.О., а таксама падарожнічала з аркестрай Голдэн Варыёр Марчынг Бэнд па Флярыдзе.

**Галіна Кажура,** дачка Марыі й Пётры Кажураў, таксама ведамых з царкоўнай дзейнасьці, закончыла Гайлэнд Парк Гай Скул, дзе здабыла Гонор Сосаеты. Яна таксама належала да многіх студэнцкіх згуртаваньняў, як: Капэла Хор, Консэрт Хор, Ворзіты чыр-лідэр ды спартовыя дружыны. Нельга не зазначыць, што Галіна сёлета будзе падарожнічаць з канцэртным хорам па Чэхаславаччыне.

Ірэна Азарка й Галіна Кажура зьяўляюцца дзейнымі сяброўкамі Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ды належаць да беларускага танцавальнага гуртка.

Далейшыя студыі будуць праходзіць: Ірэна Азарка ў Лівінгстон Каледжы Ратгэрс Унівэрсытэту ў Нью Джэрзі, а Галіна Кажура — у Даглас Каледжы Ратгэрскага ўнівэрсытэту ў Нью Джэрзі.

Жадаем ім плённых посьпехаў у далейшай навуцы!

**Літвіна Г.**

**Іван Калесьнік**

## ВЯСНОЙ

Дзядок сівы
з-пад Капыля
Дзірван капае спакваля.
Хоць ён жыве
Даўно ў сталіцы,
Але —
ня можа безь зямліцы.
Надосьвітку ўстае ён
рана
I градкі ўскопвае старанна.
Вакол яго —
гарэзы-ўнукі.
Ім даць-бы
зялязякі ў рукі.
Яны-ж да працы —
ну хоць плач.
Адно —
лупцуюць звонкі мяч.
Дзядок ня кажа:
„Лайдакі!"
А думае, што час такі.
Дзяўбе дзірван
ля камяніцы,
Жадае даць
Жыцьцё зямліцы.
Пустэча зьнікне —
Будуць кветкі.
Стары-ж ня раз
сасьніць палеткі,
Дзе праляцела маладосьць,
Дзе гаспадар ён,
а ня госьць . . .

**1971.**

## ДЗЯВОЧАЕ

А я
Ма́ю
Наламаю.
Сваю хату прыбяру.
Што я ў сэрцы, любы, маю,
Табе толькі падару.
Падару табе —
вясёлы
I агністы свой пагляд,
Каб у іншых
вёсках-сёлах
Не заглядваў на дзяўчат.
Падару навек усьмешку,
Пацалунак
падару.
I тваю дарожку-сьцежку
Аксамітам прыбяру.
Калі-ж гэтага
ня хопіць,
I касы —
ня шкода мне.
Толькі хай
найлепшы хлопец
Маёй долі ня міне.
I я ма́ю
Наламаю,
Сваю хату прыбяру.
Што было ў душы,
Што маю,
Табе, любы,
падару.

**1971.**

**Іван Калесьнік** — нарадзіўся ў 1932 г. у вёсцы Грытчына Дзяржынскага (б. Койданаўскага) раёну Меншчыны. Скончыў Менскае пэдвучылішча й Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працуе ў рэдакцыі часапісу „Маладосьць". Аўтар трох зборнікаў вершаў: „Белыя каштаны" (1959), „Пяць сузор'яў" (1963) і „Калі разам мы" (1967).

СЬВЯТОЙ ✝ ПАМЯЦІ

### ЗІНАІДА ВАДЭЙКА

адыйшла на той сьвет
14 жніўня 1971 году
на 75-ым годзе жыцьця
й пахаваная на Беларускім
Магільніку ў Іст Брансьвіку,
Нью Джэрзі,
аб чым з глыбокім сумам
паведамляюць

**Прыяцелі.**

У пятніцу 23 ліпеня 1971
на 92-ім годзе жыцьця памерла
ў Вальдборо, шт. Мэйн, сьв. пам.

### ВЕРА ПРОТАС

**(дзявоцкае прозьв. Пташненка)** Нябожчыца нарадзілася ў Полацку ад бацькоў Лукаша й Агаты Пташненкаў 10 верасьня 1879 г. Пахаваная на магільніку Вудлэнд у Стамфард, штат Канэктыкат, побач свайго мужа сьв. пам. Аляксандра Протаса.

Сьпі спакойна, Дарагая Бабка, і хай Табе прысьніцца роднае Забалацьце!

**Прыяцелі**

### ЗАГІНУЛА Ў АЎТАМАБІЛЬНАЙ КАТАСТРОФЕ

5 ліпеня ў трагічным аўтамабільным выпадку на дарозе дамоў каля места Драйдэн, Паўночнае Антарыё, загінула дачка Пятра й Зінаіды Бобрыкаў — сьв. пам. Ірына. Яна нарадзілася 12 студзеня 1950 у Канадзе. Сярэднюю асьвету атрымала ў Ашаве, затым скончыла настаўніцкі каледж у Тароньце.

Паховіны адбыліся 8 ліпеня на Юньён магільніку ў Ашаве пры масавым удзеле шматлікай радні й знаёмых. Уладыка Мікалай у суслужэньні ўкраінскага сьвятара адправіў жалобную Божую Службу.

**ВАЖНА ДЛЯ ТЫХ, ШТО ПРЫСЫЛАЮЦЬ ГРОШЫ НА „БЕЛАРУСА"**

**Дзеля таго, што ўсе ўплывы ў касу Рэдакцыі „Беларуса" дэтальна падаюцца ў канцы апошняй бачыны кажнага нумару газэты пад загалоўкам „На Выдавецкі Фонд „Беларуса", скарбнік Рэдакцыі цяпер ня высылае асобных пaквітаваньняў за атрыманыя грошы, што эканоміць час і паштовыя выдаткі. Аднак калі хто-небудзь жадаў-бы атрымаць і асобны квіт за высланыя ім грошы, просім, разам з высланым чэкам выказаць і гэтае сваё жаданьне, а адмысловае пaквітаваньне будзе яму высланае.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (месяц ліпень) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе | $ 100.00 |
| 2. Д-р Л. Трусэвіч | 50.00 |
| 3. Д-р Р. Гарошка | 50.00 |
| 4. М. і А. Верабей | 40.00 |
| 5. Уладыка Андрэй | 25.00 |
| 6. А. Махноўская | 25.00 |
| 7. В. і М. | 20.00 |
| 8. С. Антонік | 20.00 |
| 9. Праф. Л. Акіншэвіч | 15.00 |
| 10. В. Акавіты з Аўстраліі | 13.20 |
| 11. М. Прускі | 12.00 |
| 12. Інж. Л. Норык | 10.00 |
| 13. П. Міранові́ч | 10.00 |
| 14. З. Бобрык | 10.00 |
| 15. Н. Дарашэвіч | 10.00 |
| 16. А. Грыцук з Канады за клішэ | 10.00 |
| 17. Ул. Шыманец, з Францыі, за клішэ | 10.00 |
| 18. П. Пецька | 10.00 |
| 19. Д. Касьцень | 6.00 |
| 20. С. Блоцкі | 6.00 |
| 21. М. Грэбень | 5.00 |
| 22. Я. Юхнавец | 5.00 |
| 23. Н. Лапушынскі | 4.00 |
| **Разам:** | **$ 466.20** |

**2. Сабрана сп. А. Маркевічам сярод Беларусаў Канады:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Ганько | 12.00 |
| 2. А. Жылік | 10.00 |
| 3. А. Протас | 10.00 |
| 4. Я. Хрэноўскі | 11.00 |
| 5. Л. Наркевіч | 10.00 |
| 6. М. Янцэвіч | 10.00 |
| 7. П. Попел | 7.00 |
| 8. Б. Кірка | 6.00 |
| 9. Л. Карыба | 6.00 |
| 10. Ул. Цэлеш | 6.00 |
| 11. Д-р Я. Скурат | 6.00 |
| 12. В. Харэвіч | 6.00 |
| 13. Г. Гронскі | 6.00 |
| 14. М. Стэпановіч | 6.00 |
| 15. К. Акула | 6.00 |
| 16. В. Навіцкі | 6.00 |
| 17. П. Канцавы | 6.00 |
| 18. В. Гуцько | 6.00 |
| 19. М. Такушэвіч | 6.00 |
| 20. Я. Бурдзь | 6.00 |
| 21. М. Таўпека | 6.00 |
| 22. С. Ліс | 6.00 |
| 23. Б. Лішчонак | 6.00 |
| 24. С. Шульга | 6.00 |
| 25. Я. Мятла | 5.00 |
| 26. С. Мацукевіч | 5.00 |
| 27. А. Высоцкі | 5.00 |
| 28. П. Бамбер | 2.00 |
| 29. Вырва | 1.00 |
| **Разам:** | **$ 190.00** |

**3. Сабрана сп. А. Стрэчэнем сярод Беларусаў Кліўленду:**

| | |
|---|---|
| 1. В. Дурэйка | 15.00 |
| 2. М. Белямук | 10.00 |
| 3. Ю. Гасьцееў | 10.00 |
| 4. Уладыка Андрэй | 6.00 |
| 5. А. Шастак | 6.00 |
| 6. А. Лук'янчык | 6.00 |
| 7. Я. Раковіч | 6.00 |
| 8. М. Ягаўдзік | 6.00 |
| 9. А. Яраховіч | 6.00 |
| 10. П. Дварэцкі | 6.00 |
| 11. В. Семянчук | 6.00 |
| 12. А. Кананчук | 6.00 |
| 13. В. Сяргіевіч | 6.00 |
| 15. М. Гумен | 6.00 |
| 14. М. Страпко | 6.00 |
| 16. А. Міраеўскі | 6.00 |
| 17. К. Каляда | 6.00 |
| 18. С. Карніловіч | 6.00 |
| 19. К. Калоша | 6.00 |
| 20. К. Маталіцкі | 6.00 |
| 21. К. Кіслы | 6.00 |
| 22. А. Стрэчань | 6.00 |
| 23. І. Каваленка | 6.00 |
| **Разам:** | **$ 155.00** |

**Усяго разам: $ 811.20**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**